**Беларусь да 2025 года павінна выплаціць 23,5 мільярда доляраў дзяржпазыкі.**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**


**№ 49 (4301)**

19 чэрвеня 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*


# Народная Воля


**Сёння ў Мінску адбудзецца пасяджэнне Вышэйшага дзяржаўнага Савета так званай Саюзнай дзяржавы.**
**Перад гэтым Аляксандр Лукашэнка правядзе перамовы з Уладзімірам Пуціным, які наведвае Беларусь з афіцыйным візітам.**

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## «Народная Воля» служыць Беларусі і Вам, шаноўныя сябры

У чарговы раз нагадаем, на якіх пазіцыях грунтуецца рэдакцыйная палітыка "Народнай Волі".



**Мы служым не ўладзе.**
**Мы служым не партыям.**
**Мы служым не алігархам.**
**Мы служым не апазіцыі.**
**Мы служым свайму сумленню.**
**Мы служым Свабодзе Слова.**
**Мы служым дэмакратыі,**
**якая на першае месца ставіць**
**сілу закона, а не закон сілы.**
**Мы служым Чалавеку, які мае**
**не толькі абавязкі, але і правы.**
**Мы служым Вам, чытачы!**
**Мы служым Беларусі!**

Вось так, шаноўныя сябры, мы служым Вам і Беларусі. І крыўдна чуць, калі той-сёй беспадстаўна папракае нас у тым, быццам "Народная Воля" здае свае пазіцыі. Не здае і ніколі не здасць, як не здрадзіць свайму галоўнаму прынцыпу – быць аб'ектыўнай, прынцыповай газетай! У аснове нашых публікацый – рэальнае жыццё, а не, прабачце, зубаскальства, ахайванне ўсіх і ўсяго. Мы не глядзім на свет толькі праз чорныя акуляры, свет у нашых вачах шматколерны. Таму, пагадзіцеся, на старонках газеты хапае як станоўчых, так і крытычных матэрыялаў. І лупцуем мы, калі ёсць нагода, без аглядкі на чыны і пасады. Для нас не існуе недатыкальных асоб, забароненых тэм.

Нас хвалюе адно – не згубіць Вас, прыхільнікаў "Народнай Волі". Нагадаем: завяршаецца падпіска на другую палову 2018 года, і важна не спазніцца. Калі ёсць цяжкасці з фінансамі, можна аформіць падпіску на любы тэрмін – на квартал, два месяцы, месяц. У любы час Вы можаце прадоўжыць сяброўства з любімай газетай.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

ПРАТЭСТ

## «Усе чакаюць рэакцыі Лукашэнкі...»

*Дэмакратычныя актывісты працягваюць несці варту ў Курапатах, пратэстуючы супраць адкрыцця паблізу месца расстрэлаў ахвяр камуністычнага рэжыму рэстарана "Паедзем паядзім".*

*Пра тое, што адбывалася там у апошнія дні, якія захады робяцца актывістамі для таго, каб улада звярнула ўвагу на пратэст, "Народнай Волі" распавядае адзін з удзельнікаў акцыі* ***Павел Севярынец.***

– Курапацкая варта працягваецца, – *гаворыць Севярынец.* – Акрамя таго, напрыканцы мінулага тыдня ў Генпракуратуру, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Мінаблвыканкам, Мінрайвыканкам перададзены калектыўныя звароты з патрабаваннем зачыніць ці перанесці рэстаран "Паедзем паядзім" у іншае месца. Дарэчы, у дзяржаўных установах здзівіла рэакцыя тамтэйшых супрацоўнікаў. Што ў Генпракуратуры, што ў КДК работнікі канцылярыі, прымаючы ў нас звароты, прызнаваліся, што ў курсе нашага пратэсту і што даўно чакалі, каб да іх нехта звярнуўся. Маўляў, не месца рэстарану там, дзе расстрэльвалі людзей. Адзіночныя звароты перададзены таксама ў Адміністрацыю прэзідэнта. Зараз у чыноўнікаў ёсць 30 дзён, каб на іх адказаць. Хаця асабіста для мяне відавочныя дзве рэчы: па-першае, абарона Курапатаў павінна стаць падзеяй нацыянальнага маштабу, а па-другое, думаю, усе чакаюць, пакуль наконт гэтага пытання выказацца Аляксандр Лукашэнка. Ад яго рэакцыі ў многім будзе залежаць, у які бок павернецца гэтая справа.

Дарэчы, у другой палове дня панядзелка, 18 чэрвеня, у офісе Саюза беларускіх пісьменнікаў быў прыняты яшчэ адзін зварот у абарону Курапатаў. Ён адрасаваны кіраўнікам дзяржаў, якія прыедуць у Беларусь на адкрыццё мемарыяла ў Трасцянцы. Чакаецца, што 29 чэрвеня нашу краіну наведаюць у тым ліку дэлегацыі з Германіі і Аўстрыі. Сам зварот да лідараў гэтых краін падпісалі прадстаўнікі палітычных партый і творчых саюзаў краіны.

**– А што зараз адбываецца на месцы пратэсту?**

– Штодня тут збіраюцца па некалькі дзясяткаў чалавек. За час пратэсту на актывістаў складзена каля 50 адміністрацыйных пратаколаў, гэта мы яшчэ не ўлічваем тыя, што складаюцца па лініі ДАІ.

Вядома, што ёсць і першая крымінальная справа, звязаная з рэстаранам "Паедзем паядзім". Яна заведзена на 27-гадовага супрацоўніка МТЗ Мікіту Найдзёна па артыкуле 340 Крымінальнага кодэкса "Заведама ілжывае паведамленне пра небяспеку". Хлопец патэлефанаваў у рэстаран і паведаміў, што ўстанова замініравана. Інфармацыя не пацвердзілася, і зараз Найдзёну пагражае крымінальная адказнасць.

Саміх актывістаў, якія нясуць варту ў Курапатах, "ахоўваюць" людзі ў цывільным. Паводле маіх самых сціплых падлікаў, іх тут некалькі дзясяткаў. Хтосьці здымае ўсё, што адбываецца, на відэа, нехта проста сядзіць у машыне, нехта "ахоўвае" бліжэйшыя да месца пратэсту прыпынкі грамадскага транспарту. Вось на гэта і ідуць грошы падаткаплацельшчыкаў.

Хаця ахоўваць тут няма каго: нашы актывісты цалкам самастойныя людзі, а што тычыцца наведвальнікаў, то іх у рэстаране шмат не бывае. Пра што казаць: у зале на 300 месцаў заняты два-тры. Гэта сведчыць пра тое, што беларусы байкатуюць работу рэстарана, пабудаванага, можна сказаць, на костках забітых людзей...

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

АНОНС

## Реанимация ЛЖИ

...Происходит резкое падение культуры, свидетельством чего является и опубликованная в журнале «Неман» «повесть» В.Ландера. И если автор исполнен невероятного пиетета перед режиссером М.Ковальчиком, во имя которого можно лгать, то чем руководствовались сотрудники журнала, опубликовавшие этот льстивый бред?

*(Статью Семена Букчина «Реанимация лжи» читайте на 7-й стр.)*

СТАЛІЦА

## «Абяцаюць выплаціць паўтара бюджэту пражытачнага мінімуму»

У красавіку ў Мінску была зафіксавана самая высокая сярэдняя зарплата па краіне – 1 тысяча 275 рублёў. Але, аказваецца, у сталіцы ёсць прадпрыемствы, дзе работнікам не плацяць зарплату. І колькасць такіх прадпрыемстваў не змяншаецца, канстатавала падчас аператыўнай нарады ў Мінгарвыканкаме кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Наталля Качанава.

– Хто ў даўжніках? – пацікавілася "Народная Воля" ў Мінгарвыканкаме.

Аказалася, што самыя буйныя неплацельшчыкі – камерцыйныя арганізацыі, напрыклад, СП "Унібокс", якое не разлічылася па заробках за люты-сакавік 2016 года, але, праўда, выплаціла заробак за красавік 2018 года. Ёсць запазычанасць перад працаўніцамі і ў ААТ "Усход" – цырульні гэтай сеткі добра вядомыя минскім модніцам. У спісе даўжнікоў чатыры будаўнічыя кампаніі і нават адно казіно.

Што тычыцца дзяржаўных прадпрыемстваў, то без красавіцкай зарплаты, паведамілі "Народнай Волі" ў Мінгарвыканкаме, засталіся работнікі Мінскага завода аўтаматычных ліній – буйнога станкабудаўнічага прадпрыемства з развітай тэхнічнай базай, інфраструктурай і высокакваліфікаванымі кадрамі з вялікім вопытам работы, як напісана на сайце прадпрыемства. "Кіраўніцтва завода абяцае выплаціць паўтара бюджэту пражытачнага мінімуму, – расказалі ў Мінгарвыканкаме. – А потым і цалкам разлічыцца па красавіцкай зарплаце".

Паўтара бюджэту пражытачнага мінімуму – гэта 309 рублёў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАЗІЦЫЯ

## Ірына ЯБЛОНСКАЯ (КАБАСАКАЛ):
## Хто з маіх знаёмых наведае «Паедзем, паядзім» – выкраслю з жыцця

*Свецкая львіца і дыетолаг Ірына Яблонская (Кабасакал) у сябе на старонцы ў «Фэйсбуку» цвёрда выказалася наконт скандальнага рэстарана «Паедзем паядзім», які знаходзіцца на тэрыторыі, дзе раней была ахоўная зона Курапатаў.*



– У мяне не ўкладваецца ў галаве, каму прыйшла думка на тым месцы пабудаваць рэстаран. Я не разумею, як на гэта ўлады маглі даць дазвол. Нават калі вы мне будзеце казаць, што гэта проста закусачная, то я вам адкажу, што там, дзе ежа, там – алкаголь. Дзе алкаголь – там весялосць. Гэта святое месца! У 20–30-х гадах мінулага стагоддзя ад рук энкавэдэшнікаў загінулі больш за 40 тысяч чалавек, і гэта не звычайныя вясковыя могілкі, калі вы мне скажаце, што ўся Беларусь на касцях. На месцы рэстарана павінен быць мемарыял. І хай для стварэння яго з нас усіх збяруць грошы, як калісьці збіралі на бібліятэку! Трэба памятаць і дзецям, і унукам і праўнукам паказваць. Некаторыя з загінуўшых не пакінулі нашчадкаў, а многія пакінулі, і ім балюча бачыць, як на месцы гібелі іх продкаў з асалодай паглынаецца ежа, а хутка карпаратывы пачнуцца і вяселлі (вы ж гэта разумееце). Калі б падобная сітуацыя адбылася дзесьці ў Еўропе, увесь народ бы выйшаў на вуліцы і патрабаваў бы знесці будынак рэстарана. І працягвалася б гэта да таго часу, пакуль людзі не дамагліся сваёй мэты. Нельга заставацца абыякавымі да гэтай праблемы! Я лічу гэта нацыянальным болем. Бо вам бы не прыйшло ў галаву весяліцца, напрыклад, побач з Хатынню або Асвенцымам? Гэта адно і тое ж! Мы павінны шанаваць памяць нявінна забітых! Уся краіна будзе «дрэнна» жыць да таго часу, пакуль будуць заахвочвацца падобныя праекты і людзі будуць іх наведваць. У Мінску і ваколіцах дастаткова рэстаранаў (больш чым), куды можна хадзіць і не атруціцца.

Калі я ўбачу сваіх сяброў і знаёмых, хто наведае гэтае месца і пахваліцца ў сацыяльных сетках, заблакірую і выкраслю з жыцця. Ведайце, што вы для мяне перастанеце існаваць.

Я гатова напісаць петыцыю і адправіць яе ў Адміністрацыю прэзідэнта з просьбай закрыць гэтае месца назаўсёды. Куды глядзіць прэзідэнт і як ён мог дапусціць такое? Ён звычайна думае, што пра яго падумаюць іншыя прэзідэнты і ўсе людзі ў свеце. Мабыць, ён не ў курсе!

ВІНШУЕМ!

## Жыццялюб і працаўнік

Ён заўсёды ўсмешлівы і свой жыццялюбны настрой ненавязліва ўмее перадаць любому, нават самаму панураму суразмоўцу.

Ён карыстаўся беларускай мовай на ўсіх сваіх пасадах – ад дырэктара БЕЛТА да міністра культуры і друку, Надзвычайнага і Паўнамоцнага Пасла, і падначаленыя ахвотна бралі прыклад з такога кіраўніка.



Ён разам з таленавітым мастаком Паўлам Татарнікавым стварыў серыю кніг-шэдэўраў "Сем цудаў Беларусі", якая стала годнай візітоўкай нашай краіны.

Ён дапамог загаварыць па-беларуску Эрнесту Хэмінгуэю, Элізе Ажэшка, Шолам-Алейхему і Станіславу Лему – і класікі сусветнай літаратуры ўдзячныя за гэта свайму перакладчыку.

Ён – уладальнік шматлікіх айчынных і замежных прэмій, сярод якіх і журналісцкае "Залатое пяро", – і яго пяро сапраўды ніколі не ржавее, у чым з нумара ў нумар пераконваюцца чытачы "Народнай Волі".

Ён – гэта **Анатоль БУТЭВІЧ**, наш аўтар, наш сябра, наш аднадумца. З юбілеем, шаноўны Анатоль Іванавіч!

**Рэдакцыя «Народнай Волі».**

ФЕСТЫВАЛЬ

## Апладысменты брытанцам







Пасольства Вялікабрытаніі ў Беларусі арганізавала пры падтрымцы Мінскага гарвыканкама цудоўны фестываль. Аўтаамататары любаваліся новенькімі Jaquar, Bentley, Range Rover і Mini.

На плошчы ля Ратушы мінчан парадавалі сваім выступленнем валыншчыкі Другога Каралеўскага Ірландскага Палка. Як і барабаншчыкі шоу Melodians Steel Orchestra. У захапленні былі прысутныя на фестывалі ад канцэрта Шан Эванс і многіх іншых гасцей туманнага Альбіёна.

Фота Белта.

ГРОМКАЯ ТЕМА

# Ищет ли КГБ зятя Радима Горецкого?

*Семнадцать лет назад, в августе 2001 года, сотрудник КГБ **Геннадий Угляница** и его друг активист молодежной организации **Андрей Жерносек** сделали сенсационное признание. Они рассказали, что неподалеку от базы СОБРа в Бегомле захоронен джип с телами расстрелянных бывшего вице-премьера правительства **Виктора Гончара** и бизнесмена **Анатолия Красовского**. Сообщение наделало немало шума. На место, указанное сотрудниками КГБ, выезжали специалисты с металлоискателями во главе с тогдашним министром внутренних дел **Владимиром Наумовым.** Но поиски, если верить официальным заявлениям, оказались напрасными.*

*«Народная Воля» поинтересовалась, как сложилась судьба **Геннадия Угляницы** и **Андрея Жерносека.***



## О чем рассказали?

Жерносек и Угляница сообщили: во время собственного расследования им удалось выйти на свидетеля, сообщившего, что похищение Гончара и Красовского осуществили пять военнослужащих бригады внутренних войск. Жерносек и Угляница утверждали, что обнаружили место погребения.

– *Нам стало известно, что в 1999 году, в сентябре, группа выехала на двух машинах из части вечером,* – говорят на видеозаписи Угляница и Жерносек. – *Они захватили в Минске двух людей на джипе, закинули людей в машины и уехали на базу в Бегомль. В районе часа ночи они приехали на эту базу. Не доезжая до базы, свернули на проселочную дорогу, застрелили Гончара и Красовского, а их джип спрятали в лесу. Затем вернулись в часть, поставили машины и, как ни в чем не бывало, пошли ужинать. На следующий день солдат роты подняли и после завтрака погнали копать яму на полосу препятствий. Туда сбросили машину. По предварительной информации, там же находятся трупы. Либо под машиной, либо в самой машине. Раздавили ее бэтээром, засыпали землей и замаскировали это место.*

*Мы обследовали эту полосу с помощью металлодетектора, включая яму… Именно в этой яме, порядка 3,30–3,40 метра на 1,6–1,8 метра четко отбивается магнитная аномалия на железо. После этого там были проведены два шурфа раскопа, после чего мы на глубине порядка двух метров наткнулись на металл. Дальше никто копать не стал, потому что буквально в двухстах метрах от этой полосы находится воинская часть…»*

В Бегомль на раскопки практически сразу же выехала команда специалистов с саперами во главе с министром внутренних дел **Владимиром Наумовым.** Однако, судя по его словам, никаких следов захоронения человеческих останков в том месте, на которое было указано, не нашли. Наумов тогда назвал заявления Угляницы и Жерносека политической провокацией и попыткой оппозиции скомпрометировать власть.

Стоит напомнить, что разоблачительное выступление Угляницы и Жерносека появилось за пару недель до президентских выборов.

*«Дело не в тех, кто указывает место*, – комментировал «Народной Воле» результат неудавшихся раскопок под Бегомлем **Андрей Жерносек**. – *Дело в тех, кто копает... Наумов с компанией ехали туда не искать джип, а чтобы отвести угрозу* (от тех, кто расправился с Гончаром и Красовским. – **Ред.**). *Если бы они знали точно, что в яме ничего нет, то просто подогнали бы туда экскаватор и продемонстрировали бы, что там на самом деле ничего нет».*

## Кто такие?

**Геннадию Углянице** 47 лет, он – муж падчерицы известного академика Радима Горецкого. Угляница родился в Минске, вырос в обычной семье. Закончил Белорусский технологический университет, учился в аспирантуре. В КГБ Угляница пришел работать в середине 1990 годов. Кстати, он окончил минскую школу КГБ.

**Андрей Жерносек** был членом незарегистрированного «Молодого фронта», а потом перешел в подобную молодежную организацию «Край». В прессе отмечалось, что оппозиционеры относились к нему с некоторой настороженностью и старались в его присутствии не обсуждать какие-то важные вещи – подозревали в связях с КГБ.

Жена сотрудника КГБ **Инесса Угляница** говорила, что после внезапного бегства за границу муж вышел с ней на связь лишь через несколько месяцев – в октябре 2001 года. Сказал, что находится в Норвегии, получил политическое убежище. Удивительно, но случилось это через день после того, как о местонахождении Угляницы на всю страну рассказал А.Лукашенко, встречаясь с депутатами Палаты представителей.

*«Муж сказал, что ни в каких провокациях не участвовал,* – говорила Инесса Угляница «Народной Воле». – *Когда позвонил, сразу спросил, как дети и все ли у нас нормально. Подтвердил, что, к сожалению, не смог довести до конца расследование по факту исчезновения известных людей. Не смог, потому что не дали… Он не объяснил, почему под Бегомлем не нашли никаких захоронений…»*

## Чьи фамилии называли?

*В своем видеообращении Жерносек и Угляница упомянули немало конкретных персон. Напомним имена лишь некоторых из них и то, что о них известно на сегодняшний день.*

**Александр Метельский.** Жил в Борисове, служил в части 3214. Через некоторое время после того, как Угляница обосновался в Норвегии, редакции некоторых белорусских средств массовой информации за его подписью получили по электронной почте стенограмму допроса Метельского. Кто его допрашивал и при каких обстоятельствах – до конца не ясно, однако он рассказывал о том, как закапывали джип, на котором в день исчезновения ехали Гончар и Красовский, а также как и где их расстреливали. Правда, позже в одном из интервью он отказался от своих слов. *«Если будет суд, то он расскажет много чего интересного»*, – убежден Жерносек.

**Александр Микьянец** – служил в автороте в бригаде 3214. В конце прошлого года он активно пытался выйти на связь с журналистами, говорил, что много о чем может рассказать, но в конце концов по каким-то причинам передумал делать публичные разоблачения.

**Юрий Коклин** – на момент громких исчезновений служил в воинской части 3214, был лейтенантом. В конце августа 2006 года уже майор Коклин отмечен медалью «За безупречную службу». Накануне президентских выборов 2006 года один из сотрудников спецслужб обратился к общественности с заявлением, в котором назвал несколько фамилий служащих бригады, причастных к похищениям известных людей, в том числе там была и фамилия Коклина.

Официальной информации о том, что этих людей допрашивали в качестве свидетелей по уголовному делу о громких исчезновениях, нет.

## Как живется беженцам в Норвегии?

Как Угляница и Жерносек добрались до Норвегии и почему выбрали для жизни именно эту страну – можно только предполагать. Лукашенко говорил, что они бежали из Беларуси через Бишкек, а туда им помог добраться представитель Верховного комиссариата ООН по делам беженцев.

Некоторые высказывали мнение, что Угляница и Жерносек оказались за границей не без помощи властей. Хотя сами они свой отъезд называют внезапным и скоропалительным.

*«Белорусские власти к нашему отъезду не имеют никакого отношения,* – говорил **Андрей Жерносек** в интервью «Народной Воле» много лет назад. – *Мы уезжали по международным законам».*

Известно, что в Норвегии одна из лучших социальных программ в Европе, спокойная обстановка, страна в мировых лидерах по уровню жизни.

По истечении семи лет проживания в стране при условии хорошего знания норвежского языка можно без проблем получить гражданство.

Кстати, по норвежскому законодательству журналистам категорически не разрешается общение с получившими убежище гражданами, чтобы не напоминать им о перенесенных на родине моральных травмах и пытках.

А тем гражданам, которые после пребывания в Норвегии хотят снова вернуться на родину, выделяется денежная помощь – так называемые подъемные в размере 20.000 крон – и оплачиваются расходы на переезд. А еще дается время на изменение решения.

По словам близких, за все это время Геннадий и Инесса Угляница ни разу не приезжали в Минск.

*«Безопасно ли это будет для них?»* – задают риторический вопрос их родственники.

После эмиграции Геннадий Угляница почти год ждал встречи с семьей. Инесса Угляница с двумя детьми на руках (9-летним сыном и годовалой дочкой) фактически оказалась заложницей в руках спецслужб. Ей не давали возможности выехать из Минска в Норвегию к мужу. Почти год под окнами квартиры академика Горецкого, где тогда жила Инесса, дежурила машина с сотрудниками спецслужб. Инессу не только приглашали на допросы, за ней еще следили круглые сутки. Она отвозила сына в школу – вслед за ней, не скрываясь, следовала «охрана».

*«За тот год эти службисты стали нам уже как родные!* – вспоминают в семье Горецких. – *Были даже смешные ситуации, когда зимой было холодно, и мы им приносили горячий чай или кофе. А однажды вообще около полуночи позвонили в квартиру и на вопрос «Кто там?» ответили: «Свои! Замерзли как собаки, пустите кипяточку набрать…»*

Дочке Геннадия и Инессы Угляницы уже 18 лет, она заканчивает колледж, планирует поступать в университет. Сыну – 26 лет, он не женат, окончил институт, давно работает. Примерно раз в год Радим Горецкий вместе с женой навещает их.

У Андрея Жерносека – три дочери. Все они свободно общаются на норвежском, делают успехи в учебе и карьере.

Угляница и Жерносек работают, получают пособие. Все имеют норвежские паспорта.

Не жалеют ли они о том, что сделали 17 лет назад?

*«Не жалеют, но ностальгия есть»*, – говорят их близкие.

ОФИЦИАЛЬНО

## Закрыто ли уголовное дело в отношении Геннадия Угляницы?

*Этот вопрос «Народная Воля» попыталась прояснить в КГБ.*

В 2011 году Комитет государственной безопасности заявил, что возбудит уголовное дело по факту исчезновения своего сотрудника Геннадия Угляницы, поскольку он имел доступ к секретным документам и располагает сведениями, составляющими государственную тайну.

Тогдашний глава КГБ Леонид Ерин сказал журналистам, что *«сотрудник управления КГБ по Минску и Минской области Геннадий Угляница исчез и не появлялся ни дома, ни на работе. Правоохранительным структурам также не известно место нахождения Жерносека. В связи с этим КГБ Беларуси обратился к спецслужбам России и Украины с просьбой содействовать розыску Угляницы и Жерносека»*. Правда, жена Угляницы в своих интервью говорила, что, по ее сведениям, муж никуда уезжать не собирался. А в тот день, когда он внезапно пропал, а в СМИ попала видеокассета с разоблачительными признаниями, его просто вызвали на работу…

Сотрудник КГБ Угляница публично обвинил должностных лиц в совершении тяжкого преступления, но информация, как было официально заявлено, не подтвердилась, получается, его должны были привлечь к ответственности за клевету.

В каком состоянии сейчас находится уголовное дело в отношении Угляницы? Допрашивали ли его? По-прежнему ли он является действующим сотрудником КГБ?

– *К сожалению, эту информацию мы не комментируем, особенно что касается дел прошлых лет*, – ответил официальный представитель КГБ **Андрей Ярош** на вопрос про уголовное дело в отношении Геннадия Угляницы. – *Постараюсь уточнить, если будет какая-то информация – я вам перезвоню.*

Прошло около двух недель, но звонка из пресс-службы КГБ так и последовало…

**Марина КОКТЫШ.**

СКАНДАЛ

### Ігар ЛАСІЦКІ, намеснік міністра аховы здароўя:

# «Мы самі ўсе ў шоку»

*З'явілася інфармацыя пра новыя затрыманні, звязаныя з махінацыямі пры пастаўках медыцынскага абсталявання ў беларускія клінікі.*

Гэтым разам быццам бы ў поле зроку спецслужбаў трапілі чыноўнікі Міністэрства аховы здароўя і дзяржпрадпрыемстваў, яму падведамасных. Так, паводле некаторай інфармацыі, супрацоўнікі КДБ затрымалі дырэктара РУП «Цэнтр экспертыз і выпрабаванняў у ахове здароўя» **Аляксандра Сталярова** і начальніка ўпраўлення, дырэктара Гарадскога клінічнага паталагаанатамічнага бюро горада Мінска **Аркадзія Пучкова** (кажуць, што 69-гадовага Пучкова, які ўзначальвае бюро з 1988 года, затрымлівалі вельмі брутальна, на вачах падначаленых заламалі рукі і надзелі кайданкі), а таксама пяць супрацоўнікаў вытворча-гандлёвага прадпрыемства Міністэрства аховы здароўя «Белмедтэхніка», праз якое праходзіць асноўная маса ўсіх тэндараў па закупцы медыцынскага абсталявання. Паводле чутак, дапытвалі таксама і намесніка міністра аховы здароўя **Ігара Ласіцкага** – чыноўніка, які курыруе ў ведамстве пытанні закупак і звароту медыцынскіх вырабаў і мадэрнізацыі аб'ектаў аховы здароўя, а таксама з'яўляецца старшынёй профільных камісій Міністэрства аховы здароўя і РУП «Белмедтэхніка». Аднак сам Ласіцкі гэтую інфармацыю абвяргае. Пра затрыманых падначаленых кажа наступнае:

– *Так, ёсць інфармацыя пра затрыманні, з "Белмедтэхнікі" пяць чалавек трапілі. За што – мы не ведаем дакладна. Быццам бы ўсім інкрымінуецца хабар.*

*А наогул, чаму вы думаеце, што ў поле зроку мог аказацца той намеснік, які курыруе гэтыя пытанні? Можа, хто-небудзь іншы…*

***– Хто, напрыклад? Вашы калегі намесніка міністра ўсе сёння (18 чэрвеня) на працы?***



*– Так. Усе на месцы.*

***– Ігар Генадзьевіч, на ваш погляд, чаму літаральна за апошнія пару месяцаў здарыліся два такія гучныя скандалы з закупкамі медтэхнікі?***

– *За кожнай працэдурай па закупцы стаіць канкрэтны чалавек, ён нясе за гэта адказнасць. Сістэма адладжана. І мы працуем па той сістэме, якую ў свой час Дзяржкантроль прызнаў правільнай. Ёсць камісіі, якія адказваюць за гэтыя пытанні. Мы праводзім жорсткі маркетынг, неаднаразовыя перамовы. І для прыняцця канчатковага рашэння перад заключэннем кантракта Міністэрства аховы здароўя атрымлівае ўзгадненне ад усіх зацікаўленых ведамстваў, у тым ліку сілавых.*

*Як атрымліваецца, што закупкі ідуць з перавышэннем паўнамоцтваў – мы таксама гэтага не разумеем. Я не магу гэта растлумачыць. Мы ўсе ў шоку. Напэўна, адказ ведаюць тыя, хто валодае інфармацыяй з першых крыніц.*

***– Значыць, вы дапускаеце, што правапарушэнні з боку адказных асоб "Белмедтэхнікі" ўсё ж такі ёсць?***

*– Людзі працуюць, нешта знаходзяць, штосьці пацвярджаецца. Трэба дачакацца афіцыйных паведамленняў.*

Аднак у КДБ ад каментарыяў па гэтай справе пакуль устрымліваюцца, але кажуць, што ў бліжэйшы час пра ўсё будзе паведамлена.

Што да неафіцыйнай інфармацыі, то выданне "Ежедневник" напісала, што ў распрацоўцы ў сілавікоў аказалася *«камерцыйная» структура Міністэрства аховы здароўя, якая лічыцца вытворцам медабсталявання і якая актыўна ўдзельнічала ў пастаўках у беларускія медустановы. Фокус заключаўся ў тым, што многае абсталяванне на самай справе не выраблялася там, а куплялася ў замежных, часам не сертыфікаваных вытворцаў і выдавалася за беларускае. Пры гэтым цэны на такое «беларускае» абсталяванне былі сур'ёзна завышаны за кошт таго, што кампаніі-канкурэнты адсейваліся пры дапамозе няхітрай схемы яшчэ да правядзення тэндара.*

*Цікава, што гэтую структуру ўзначальвае родны брат аднаго вельмі ўплывовага сілавіка генеральскага чыну, які карыстаецца, дакладней карыстаўся, высокім даверам прэзідэнта і не раз атрымліваў з яго рук урадавыя ўзнагароды".*

Дарэчы, у лютым гэтага года медыцынская сфера ўжо перажыла адзін падобны скандал. Тады па абвінавачанні ў мільённых накрутках пры закупцы медтэхнікі для беларускіх клінік было затрымана 12 чалавек, паведамлялася, што толькі падчас адной пастаўкі абсталявання для анкадыспансера ў 2014 годзе на сваіх пасрэдніцкіх паслугах яны зарабілі 4 мільёны еўра. Аднак пазней амаль усе затрыманыя былі вызвалены, а інфармацыю пра мільённыя накруткі пры закупцы дарагога медыцынскага абсталявання Следчы камітэт не пацвердзіў.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ

# Кому и на какой срок назначается адресная социальная помощь?

***Могу ли я претендовать на государственную адресную социальную помощь, если получаю социальную пенсию? Хотя назвать эти крохи пенсией язык не поворачивается.***

**М.Хмелевская, Минск.**

Получатели адресной помощи в нашей стране определены указом №41 «О государственной адресной социальной помощи», который вступил в силу с 1 апреля 2012 года.

В соответствии с документом ежемесячное социальное пособие предоставляется гражданам, у которых среднедушевой доход за 12 месяцев, предшествующих месяцу обращения за помощью, по объективным причинам ниже критерия нуждаемости и составляет 100% бюджета прожиточного минимума (с 1 мая 2018 года это 206,58 рубля).

За единовременным социальным пособием могут обратиться граждане, оказавшиеся в трудной жизненной ситуации, нарушающей нормальную жизнедеятельность, при условии, что их среднедушевой доход составляет не более 150 процентов критерия нуждаемости (с 01.05.2018 – 309,87 рубля). Имеет ли право человек на адресную помощь, решает специальная комиссия, которая создается местной администрацией. Комиссия рассматривает каждое заявление индивидуально.

Социальная пенсия в Беларуси, как вы правильно заметили, крошечная. Она составляет всего лишь 50 процентов от БПМ и назначается женщинам в 60 лет, мужчинам – в 65, у которых нет необходимого страхового стажа для получения трудовой пенсии по возрасту. Сегодня размер социальной пенсии составляет 103,29 рубля. И, в принципе, вы имеете право на адресную социальную помощь. Но, как уже не раз объясняли специалисты Министерства труда и социальной защиты, при расчете среднедушевого дохода должны учитываться доходы всех членов семьи. Если ваш муж хорошо зарабатывает, то ежемесячное социальное пособие вам не назначат.

И последнее. *«Ежемесячное социальное пособие назначается с месяца обращения на период от 1 до 6 месяцев с учетом предпринимаемых семьей или гражданином мер по улучшению своего материального положения,* – добавляют в Министерстве труда и соцзащиты. – *Ежемесячное пособие может назначаться повторно. При этом суммарный период его выплаты в течение года (начиная с месяца обращения) не должен превышать 6 месяцев».*

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ЧАСТНАЯ ЖИЗНЬ

# Сын Владимира Колтовича принял присягу

*Министр антимонопольного регулирования и торговли навестил сына в армии.*

Иван Колтович пошел в армию весной – стал новобранцем в мае, прошел курс молодого бойца.

*«Присягу принял. Начинается служба по-настоящему»*, – подписал Владимир Колтович в «Фейсбуке» совместные фотографии с сыном.



Иван окончил гимназию искусств, почти два года проучился в Академии искусств, но потом забрал документы.

Владимир Колтович говорил, что сын ищет свой путь в жизни, и родители ему не мешают в этом.

Судя по фото, сын Владимира Колтовича служит в ВДВ.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

РАКІРОЎКА

# «Улада тут ні пры чым!»

*Экс-кіраўнік Мінгарвыканкама, дырэктар ТАА «Мотавелазавод» **Мікалай Ладуцька** змяніў **Уладзіміра Карагіна** на пасадзе старшыні Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў. Гэтая ракіроўка здзівіла не толькі грамадскасць, але нават і некаторых чыноўнікаў...*

*Уладзімір Карагін запэўнівае: выбары прайшлі сумленна і без умяшання ўлады.*

– Безумоўна, прызначэнне Ладуцькі выглядае сенсацыйным і незвычайным, але змена старшыні Саюза планавалася даўно, не магу ж я ўвесь час кіраваць! – *распавёў "Народнай Волі" Уладзімір Карагін.* – Тым больш гэта неаплатная праца, якая патрабуе нямала часу і фінансаў. А я працую на пяці працах, у ВНУ, узначальваю канфедэрацыю прадпрымальнікаў. Мне проста не хапае часу на ўсё.

Гэта была самая звычайная, планавая справаздачна-выбарная канферэнцыя Мінскага сталічнага саюза прадпрымальнікаў і працадаўцаў. Акрамя Мікалая Аляксандравіча Ладуцькі вылучаліся і іншыя кандыдатуры. Усе выступалі з праграмай. Ладуцьку, дарэчы, прыйшлося адказваць не толькі за сябе, але і за ўсіх чыноўнікаў. Аднак ён годна трымаўся.

**– А Ладуцька сам выказаў жаданне змяніць вас ці яго настойліва папрасілі?**

– Улада тут увогуле ні пры чым! У нас свабодная арганізацыя, і ніхто нам ніякія кандыдатуры ніколі не ўзгадняў. Калі мы прапанавалі Ладуцьку вылучыць сваю кандыдатуру, ён параіўся са сваімі сябрамі, калегамі і літаральна за суткі даў дабро на тое, што будзе вылучацца.



Ладуцька цесна звязаны з прадпрымальнікамі – сярэднімі і буйнымі, натуральна, што яны ўслед за ім прыйдуць у наш саюз.

**– Але ж ён чыноўнік да мозгу касцей!**

– Ладуцька на ўсіх сваіх пасадах спрыяў прадпрымальнікам. А калі ўзначальваў Мінгарвыканкам, то з бізнесменамі працаваў, мабыць, лепш за ўсіх сваіх папярэднікаў. Часта сустракаўся, запрашаў прадпрымальнікаў на пасяджэнні выканкама.

У яго верыў і нябожчык мэр Мінска Міхаіл Паўлаў. Калі ўжо хварэў, казаў мне: маўляў, Ладуцька справіцца з тымі задачамі, якія стаяць перад Мінгарвыканкамам. І калі не стала Паўлава, менавіта Ладуцька давёў да канца ўсе яго распачатыя праекты, у тым ліку і вялікія будоўлі, ён гасіў канфлікты, сам усюды асабіста выязджаў...

**– Не сакрэт, што Ладуцька фактычна справакаваў судовы працэс над былым уладальнікам "Мотавела" бізнесменам Аляксандрам Мураўёвым, якога на 11 гадоў кінулі за краты.**

– Вы памыляецеся. Я вельмі добра стаўлюся да Мураўёва, але, паверце, Ладуцька тут ні пры чым...

**– Ён завод давёў да банкруцтва.**

– Не давёў да банкруцтва, а праводзіць працэдуру банкруцтва. І трэба яшчэ паглядзець, у якім стане ён атрымаў гэта прадпрыемства...

Я ўпэўнены, што Мікалай Ладуцька яшчэ вернецца і ў дзяржаўныя органы. Будзе міністрам або віцэ-прэм'ерам. Я ў гэтым нават не сумняваюся! Ён па-ранейшаму знаходзіцца ў кадравым рэзерве...

Дарэчы, усе старшыні Мінгарвыканкама з'яўляюцца ганаровымі сябрамі нашага саюза. Андрэй Шорац, напрыклад, атрымаў статус ганаровага сябра і адпаведны дыплом у студзені гэтага года.

**– Вы цяпер таксама ганаровы – праўда, старшыня.**

– Так, для мяне ўвялі гэтую пасаду. Але гэта не значыць, што па няцотных днях тыдня я не працую. Мы дамовіліся з Ладуцькам, што я буду прадстаўляць інтарэсы нашай арганізацыі ў Мінгарвыканкаме, хадзіць на планёркі. Бо Ладуцьку трэба сваім прадпрыемствам займацца. Ён нядаўна з Манголіяй перамовы правёў, цяпер у Егіпет збіраецца – магчыма, будзе філіял там адчыняць, ва ўсякім разе пакуль актыўна вядзе перамовы па гэтым пытанні…

**Марына КОКТЫШ.**

АКТУАЛИИ

# Нам бы так жить…

*«Газа нет, нефти нет, сами мы не выживем...»*

*Этот стон с 1991 года звучит в Беларуси и порядком поднадоел. Потому что – ложь. Всё ложь!*

*Мне довелось побывать в нескольких микроскопических государствах, у которых нет не только нефти и газа, но даже дефицит обыкновенной земли, но нам бы так жить!*



## Возьмите лупу – и то на карте не найдете

Возможно, вы даже не слышали, что в Европе есть крохотное княжество Себорга. Но оно есть – что-то наподобие Абхазии и Приднестровья (в качестве самостоятельного государства признано всего несколькими странами), только значительно меньше. Всего 15 квадратных километров суверенной земли. По сути, деревня. По статусу – самопровозглашенное государство.

«Заварил кашу» торговец цветами Джорджио Карбоне, когда в 1963 году выяснилось, что Себорга документально не была включена в состав Итальянской Республики, а значит, юридически эта территория самостоятельна. При этом исторически как независимое феодальное княжество Себорга существовало более тысячи лет – с 954 года. В итоге провели референдум, провозгласили горную деревню в итальянской провинции независимым государством, а ушлого торговца цветами – князем Джорджио I, и понеслась жизнь к успеху и процветанию.

Итальянцы сначала нервничали, но потом к княжеству с тремя сотнями граждан отнеслись философски – как к удачному бизнес-проекту в итальянской глубинке.

Сегодня Себорга чеканит свои монеты луиджино, которые можно приобрести за евро и доллары и расплатиться ими в местных магазинах; имеет «армию» – министра и двух пограничников; собственные автомобильные номера; продает марки и паспорта; делает оливковое масло, вино, выращивает декоративные растения для всего мира… Живут прекрас-но! От туристов с разных концов света просто отбоя нет, и каждый привозит свои деньги в эту итальянскую глухомань.

Князь Джорджио I скончался в 2010 году, пережив попытку госпереворота, когда власть пыталась захватить его родственница княжна Ясмин. (Кстати, в наказание ее из карликовой страны депортировали.) 25 апреля 2010 года новым правителем Себорги был избран швейцарский автогонщик и бизнесмен Марчелло Менегатто – он сейчас князь Марчелло I. И, между прочим, для него сделали исключение, поскольку стать не только князем, но и владельцем недвижимости в Себорге не так-то просто: надо не только родиться в деревне, но и быть в ней крещенным. Видимо, вы сами понимаете – почему: туризм приносит огромные деньги, и граждане непризнанной карликовой страны просто не желают делиться ими с чужаками.

## Сыграли в рулетку

Из горной Себорги хорошо видно другое карликовое государство, расположенное внизу у моря. В ясную погоду отсюда можно в деталях рассмотреть яхты богатейших людей мира, «припаркованные», будто в наших дворах легковушки. Это княжество Монако – самое гламурное государство из всех существующих, пристанище богатейших людей планеты. Князья Себорги и Монако – Марчелло I и Альбер II – дружат.

Про Монако, конечно, знают все. Княжество хорошо известно, благодаря казино «Монте Карло», где проигрываются и выигрываются миллионные состояния, проводимому здесь этапу чемпионата Формулы-1 – «Гран-при Монако», а также звезде Голливуда Грейс Келли, которая в 1956 году стала принцессой Монако, выйдя замуж за тогдашнего правителя князя Ренье III.

Но мало кто знает, что княжество еще каких-то 150 лет назад бедствовало, было у Франции в долгах как в шелках. И вынуждено было отдать в счет уплаты долга почти 90% своей территории. Но на оставшейся земле удалось сотворить настоящее чудо.

Монако не раскрывает банковскую тайну, поэтому притягивает деньги со всего мира. Монако имеет очень низкие налоги, поэтому притягивает бизнесменов со всего мира. Монако все средства от игорного бизнеса направляет на развитие государства, поэтому может себе позволить строить детские сады в виде замков, где на каждого ребенка не по одной игровой комнате и не по одному воспитателю.

Монегаски все поголовно богатые люди. Просто потому, что ни один иностранный бизнес в стране не может быть зарегистрирован без того, чтобы кто-то из местных жителей не стал совладельцем. Именно так – льготный режим для иностранного бизнеса вводился не для того, чтобы обогатить чужаков, а для того, чтобы обогатить граждан Монако.

Кто-то может подумать, что тут сборище мошенников и разгул криминала. Совсем мимо! Олигархов типа российского Абрамовича или украинского Ахметова в эту страну просто не впускают, не объясняя причин. К репутации и закону относятся очень строго. Так, именно сейчас в тюрьме Монако сидит любимый племянник князя Альбера, младший сын его сестры Стефании – Пьер. Принц имеет у прессы прозвище «принц вечеринок», и на одной из таких гулянок он и его приятели затеяли драку. Как результат – восемь месяцев ареста, а после освобождения – год работ волонтером в ЮАР, в клинике для тяжелобольных детей.

Даже своего любимого племянника князь не пощадил, так представьте, что будет с любым иным искателем приключений.

Главная проблема Монако сегодня не то, как заработать деньги, а то, как научить молодежь не сходить с ума от миллионов, которые на них сваливаются сами собой, только по факту гражданства. Лично я, находясь там, все время спрашивала: «А кто же работает, если все жители – миллионеры? Кто подметает улицы, торгует в лавках, печет хлеб, развозит на такси с гламурных вечеринок?» Оказалось, электрички каждое утро привозят сюда «гастарбайтеров» из Франции и Италии – государств, которые еще недавно смотрели на Монако свысока, как на недоразумение.

Но… Рассказывают, что в Монако иногда можно сесть в необычное такси, внутри инкрустированное стразами Сваровски. Это значит, что за рулем старшая сестра князя, принцесса Каролина. Она лично развозит туристов и благодаря тому, что свободно владеет французским, английским, немецким, испанским и итальянским языками, любит общаться с ними. Именно в Монако понимаешь, что сказка о Золушке это не только про людей. Это еще и про страны, которыми руководят не политиканы, а талантливые менеджеры, думающие не только о себе, но и о людях, которыми правят.

## Король Борис

Если вы думаете, что белорусская земля в силу разных обстоятельств таких менеджеров не рождала и родить не может, то вы ошибаетесь. Пример тому – еще одно крохотное европейское государство без газа, нефти и выхода к морю. Это горное княжество Андорра, расположенное в Пиринеях между Францией и Испанией. Название страны происходит от баскского andurrial – «пустошь». Сложно сосчитать, сколько раз делили Андорру между испанской и французской коронами, между монархией и демократией, действительно превратив его в пустошь, но после Первой мировой войны судьба занесла в эти края нашего земляка Бориса Скосырева, и все изменилось.

Именно Скосырев стал первым королем Андорры. Король Борис I родился в семье белорусов Михаила Михайловича Скосырева и его жены Елизаветы Дмитриевны Скосыревой. Отец к 1917 году был земским начальником 7-го участка Лидского уезда Виленской губернии. Известно, что во время Первой мировой войны Скосырев был прикомандирован к британскому бронедивизиону, действовавшему на русском фронте, и так оказался в Европе.

Вообще-то он аферист и солдат удачи. Но именно белорус Скосырев подал Генеральному совету Андорры (на тот момент это было миниатюрное княжество в совладении епископа Урхельского и президента Франции) идею, благодаря которой княжество и сегодня успешно живет и процветает.

План реформ был простым – превратить Андорру в территорию с благоприятным фискальным режимом (низкими налогами) и обеспечить социальную защиту всем гражданам. Проект не приняли из-за опасений нарушить привычный патриархальный образ жизни. Скосырева со скандалом выслали. Но спустя месяц он нелегально вернулся и вновь предложил свой план экономических реформ по примеру Монако и себя – на должность короля Андорры. На этот раз получилось.

Правда, идея появления в Андорре игорной зоны категорически не понравилась католической Испании, Скосырева арестовали, посадили в тюрьму, выслали в Португалию. Потом его следы теряются: по одним данным, король Андорры Борис жил и похоронен в Германии, по другим – в конце войны попал в руки советских войск и прошел через ГУЛАГ. Но истина в том, что он был королем Андорры всего несколько недель, однако своими идеями дал толчок развитию миниатюрного государства на десятилетия.

Сегодня это страна с низкими налогами и высокими социальными гарантиями для местного населения. Образование, медицина, культурные мероприятия – все бесплатно. Как и в Монако, иностранный бизнес, регистрируясь в Андорре, обязательно должен взять в соучредители местного жителя. Как и в Монако, благодаря этому многие андорранцы – богатые люди. Вот только с казино не получилось – слишком консервативным оказалось общественное мнение.

В Андорре нет заводов. В Андорре лишь 2% земель пригодны для обработки. Государство Андорра принимает минимальное участие в управлении экономикой, и частное предпринимательство действует почти без ограничений. В Андорре есть банки, есть туризм, есть льготный налоговый режим для резидентов. И страна живет. Еще как живет!

## Размер не имеет значения

Вывод прост, хотя для многих белорусов почему-то не очевиден. Богатство страны – это не нефть и газ, это не размер территории и не количество населения. Монако, Сингапур, Лихтенштейн, Швейцария, Катар, Сан-Марино – это все небольшие, по сравнению с Беларусью, даже крохотные государства.

Так, площадь Беларуси 207 тысяч квадратных километров, площадь Швейцарии – 41 тысяча, Сингапура – 719, Лихтенштейна – 160 квадратных километров, Монако – 202 гектара...

У Беларуси есть все – территория, природные ископаемые, климат, люди, удачная география. Но мы бедны. Почему? Потому что богатство страны – это талант управленцев. И именно их – талантливых, поистине разумных, мудрых людей – в управлении государством у нас практически нет.

**Светлана КАЛИНКИНА.**

БЕЗ ГАЛЬШТУКА

# Уладзімір Макей арганізаваў тэнісны турнір

*Праўда, сам на корт не выйшаў.*



На мінулых выхадных у Мінску адбыўся дыпламатычны турнір на тэнісе. Ракеткі ў рукі ўзялі кіраўнікі і супрацоўнікі дыпламатычных місій і міжнародных арганізацый, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь, прадстаўнікі Міністэрства замежных спраў, а таксама іншых органаў дзяржаўнага кіравання.

Перамогу ў парным мужчынскім разрадзе атрымалі Ганаровы консул Кыргызстана **Ігар Чывель** з сынам **Мікітам**, у міксце мацнейшымі сталі начальнік аддзела міжнароднай бяспекі і кантролю над узбраеннямі **Мікалай Аўсянка** з дачкой **Ульянай**.

Узнагароды і прызы пераможцам турніру ўручалі Уладзімір Макей, першы старшыня федэрацыі тэніса **Сямён Каган** і намеснік начальніка ГУ «Дыпсэрвіс» **Уладзімір Слукін**.

Уладзімір Макей падзякаваў удзельнікам за спартыўны дух і азарт, а таксама адзначыў, што падобныя мерапрыемствы заахвочваюць да здаровага ладу жыцця.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**



КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Баба вечна ныла, дзед смактаў «чарніла»…

Паводле дадзеных Белстата, беларускія мужчыны задаволены сваім здароўем больш, чым жанчыны. Аднак жа нашы мужчыны жывуць у сярэднім 68,9 года, а жанчыны – 79…

Пра здароўе дзеду баба
Гаварыла з даўніх пор:
Тарахціць чамусьці слаба
У грудзях яе "матор",
Штосьці баліць, казала, ў спіне,
Наракала на жывот…
І што свет вось-вось пакіне,
Гаварыла з года ў год.
– А цябе не возьмуць пранцы,
Немач-боль не прабярэ,
Нават бегаеш на танцы,
Калі цёпла на двары.
Ты, нібы бугай, здаровы
І мяне пераживеш…
Надакучлівыя словы
Аб'ядалі дзеду плеш.
Ён злаваў парою трошкі:
– Не дуры мне галаву!
І калі працягнеш ножкі,
Дык знайду сабе ўдаву.
Што патрэбна чалавеку,
Каб не ўзяў кадук які?
Баба ездзіла ў аптэку,
Там купляла парашкі.
Да ўрачоў яна хадзіла,
Калі быў у целе зрух,
І бывала, што не дзіва,
У вядзьмарак і шаптух.
І было інакш у дзеда –
Павялося так здавён.
Пра вядзьмарак дзед не ведаў,
Не глытаў таблетак ён.
А калі даймалі болькі,
Не хадзіў да дактароў.
За сталом усклікваў толькі:
– Ну, суседзе, будзь здароў!
Гэта значыць, што "чарнілам"
Заліваў хваробы дзед.
І тады здаваўся мілым,
Не абрыдлым белы свет.
Дый, здавалася, хваробы,
А тым больш балячкі ўсе
Не трывожылі вантробы,
Адступалі пакрысе.
Так ад самай маладосці
Ён лячыў сябе, лічы:
Як баляць нутро ці косці,
Шклянкі – лепшыя ўрачы.
Так што быццам бы здаровым
Пачуваўся дзед заўжды,
Далягляд не быў суровым –
Там не бачныя клады.
А яшчэ, няма сакрэту,
Забаўляўся тытунём,
Браў у зубы цыгарэту
І ўначы – не толькі днём.
Словам, баба вечна ныла,
Што акажацца ў зямлі,
Ну а дзед смактаў "чарніла" –
Так на свеце і жылі.
Ды, насуперак прагнозам,
Лёг хутчэй стары ў труну.
Быў у тую ноч цвярозым,
Аддаваўся, бедны, сну…
З гора баба дамавіну
Абдымала, як дзіцё:
– На каго мяне пакінуў?
І нашто адной жыццё?
Пражыве яшчэ багата,
Покуль будзе ёй хана,
І статыстыку Белстата
Спраўдзіць здолее яна!

* * *

Самі ўласны лёс мы творым,
І выснова – як пячаць:
Лепш пражыць стагоддзе хворым,
Чым здаровым дуба даць.

### Пазыка

Папойка – зло. Страшней чумы.
Душа і цела раняцца,
І радасць пазычаем мы
У заўтрашняе раніцы…

### Вакол адны казлы

У тым нямашака маны,
Бо ўсё пацверджана жыццём:
Калі вакол казлы адны,
Дык вы, канешне, за рулём.

### Літаратар

Халасцяком пісаў ён вершы
І быў паэтам ледзь не першым.
Жаніўся – перайшоў на прозу,
Бо пасталеў, напэўна, розум.
А зараз, скасаваўшы шлюб,
Ужо як крытык чэша чуб.

### Як правільна?

– Правільна як –
Я пытанне падкіну –
"Ва Украіну" ці "на Украіну"?
– Гэтай дылемай
Свой розум не пару я:
Правільней будзе сказаць –
"У Швейцарыю"…

### Радасць для бабулі

Скайп даспадобы бабе Валі.
Для радасці якая глеба?
Як быццам госці завіталі,
А іх карміць зусім не трэба.

АСАБІСТАЕ

# Ніколі не позна



Валянціна Гатальская – чалавек, на чыім гербе павінна быць напісана "Ніколі не здавайся!". Герб, які яна атрымала ад шляхетных продкаў па дзявочым прозвішчы Мяцельская, не мае такога надпісу, але гэта дакладна пра іх, Мяцельскіх са Свяцілавічаў Веткаўскага раёна. Валянціна Фёдараўна не губляе бадзёрасці, упэўненасці ў сваіх сілах, лёгкай бравады, куды б ні паварочваў лёс.

Яна нарадзілася ў сям'і былога франтавіка, прафесійнага ваеннага Фёдара Іванавіча і тэлеграфісткі Лідзіі Кузьмінічны праз пару гадоў пасля Вялікай Айчыннай вайны. Дзяцінства часта выпрабоўвала характар, выхоўвала самымі бескампраміснымі спосабамі. Не маючы братоў і сясцёр, Валянціна мусіла спадзявацца толькі на сябе. Навучылася не паказваць слабасці, ісці наперад з гонарам і "ўсім на злосць".

У Валянціны Фёдараўны, якая некалі пакінула вучобу ў Магілёўскім педінстытуце, шкадаванні, вядома, былі, але не такія, каб псавалі жыццё. Так, мара не спраўдзілася, прыйшлося ахвяраваць прызваннем з-за раз'язнога характару работы мужа, узяць прафесію папрасцей. Але склалася ўрэшце жыццё як належыць: сям'я, дзеці, дом. Калі Валянціне было за сорак, нарадзіўся малодшы. Тады і прыдумалася творчае хобі, якое захапляла некалькі гадоў: вышыўка. У вольную хвілінку было нямала вышыта ручнікоў з прыдуманымі казачнымі і раслiннымі матывамі, прасцін, навалачак, сурвэтак, абрусаў у тэхніцы гладзі.

Вольнага часу ў жанчыны няшмат. І аж да 68 гадоў былі справы больш важныя, жыццёвыя, неадкладныя. І сумныя: сышлі бацькі, потым муж.

Валянціна са сваім Уладзімірам жылі суладным жыццём, у якім было мала пабочных інтарэсаў, акрамя сям'і. І таму, калі яго не стала, здалося, быццам няма рукі ці нагі, якія звычайна не адчуваеш асабліва, але можаш абаперціся. Штодзённыя справы толькі нагадвалі пра страту. І свой ратунак, адрыў ад жорсткай рэальнасці жанчына знайшла ў жывапісе. На некалькі гадзін работы яна нібы знікае з рэальнага свету, растваpаючыся ў творчым працэсе.

Нешта ад казачных букетаў, якія калісьці прыдумвала і вышывала, нешта ад пышных кушчаў-разанаў з беларускай школы іканапісу, штосьці з распісных народных куфараў і аканіц. Пра мастакоў-прымітывістаў, якія стваралі ў ключы народнага мастацтва, Валянціна Фёдараўна не чула. Проста не цікавілася раней. Імёны грузіна Ніко Пірасмані і беларускі Алёны Кіш, гэтак жа як і Вінсэнта ван Гога ці Анры Мацiса, для яе адкрыліся толькі тады, калі аматары яе карцін пачалі супастаўляць яе аўтарскі стыль з вядомымі творамі мастацтва. У дадатак да спантанных форм імпрэсіяністычнага бачання ў мастачкі з'явіліся творы, якія не капіравалі вядомыя карціны, а адлюстроўвалі асабістае бачанне рэалій, уражанне і настрой ад іх.

Нават самыя любімыя творы мастачка ад пачатку раздорвала, як і вышыванкі раней. "Мне не шкада. Ды і хіба я сапраўдная мастачка? А малявала я для радасці, хай карціны парадуюць яшчэ каго", – лёгкасць стаўлення да рэчаў, грошай і абставін у яе характары. Праўда, калі надарылася магчымасць выставы, аказалася, што карціны разбрыліся – не сабраць.

Гуаш, тэмпера, алей. Гэтымі тэхнікамі Валянціна авалодвала ў працэсе творчасці. Магчыма, не ўсё па правілах, а так, як сама разумела. Таму часам прыходзіцца вяртацца да старых работ, нешта правіць, ужо разумеючы, як трэба. Блізкія калі падтрымліваюць такі падыход, а калі і спыняюць: у гэтай няправільнасці, адсутнасці жадання адпавядаць акадэмічнаму канону часам і хаваецца тое сапраўднае, чыстае, чаго не хапае ў якой ідэальнай пастаноўцы і тэхніцы. Самыя "няправільныя" ў мастачкі – каты: баюны, Марціны ды катафеі. І яе прыхільнікі катэгарычна супраць, каб казачныя, нібы з ілюстрацый казак, катафеі набывалі акадэмічны выгляд. Натуршчыкамі казачных істот у гаспадыні "працуюць" два каты, чорны і пярэсты, яркія індывідуальныя характары.

Апошнім часам глякі ды ва́зы на палотнах Валянціны Гатальскай пачалі моцна хіліцца на бок. "Я потым разглядаю і бачу, што заваліўся мой нацюрморт. Ды што паробіш: з нядаўняга часу бачу адным вокам. На другое слепла, слепла, і цяпер толькі мутнае святло бачу: катаракта. Каб вярнуць зрок, патрэбна аперацыя, а гэта грошы. Можа, і праўда паспрабаваць прадаваць свае карціны? Ды як?.." Мастачка змагаецца з упартымі "пізанскімі ва́замі" і са здрадлівым святлом, што ўсё тускнее і тускнее, не даючы надзеі на тое, што можна будзе маляваць, бачачы хоць адным вокам праз акуляры.

У самадзейнай мастачкі шмат планаў, эскізаў, твораў у працэсе напісання. Яна не здаецца і лічыць, што ніколі не позна пачаць і працягнуць і няма на свеце страт, акрамя незваротных...

**Арыя ГАТАЛЬСКАЯ.**

РЭХА

# «Кухар з нямецкай палявой кухні падкормліваў нас, дзяцей вайны…»

Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Напісаць гэты ліст мяне падштурхнулі тыя водгукі, якія былі дасланы ў "Народную Волю" з розных куткоў Беларусі пасля публікацыі артыкула Міхася Скоблы "Верабейка гаварушчы з беларускай пушчы". Аўтар нібы пачуў мае думкі і адчуў мой боль, які я нашу ў сабе ўсё жыццё. Сёння мне ўжо за 80, а ў 1943 годзе было пяць. Але я добра помню, як партызаны ўварваліся на наш хутар у Хомскім сельсавеце Драгічынскага раёна, забілі дзеда з бабуляй і цётку, спалілі хату з усёй маёмасцю. Вывелі з хлява карову і на вачах дзяцей застрэлілі. Бацьку білі наганам па галаве і патрабавалі самагонкі...

Каб абараніцца ад начных набегаў, мой свёкар, дырэктар школы, з другімі вяскоўцамі арганізавалі атрад самааховы (з ведама немцаў). Свёкар нічога дрэннага людзям не зрабіў. А пасля вайны яго асудзілі на 25 гадоў як здрадніка. Пытанне – у чым яго віна? У тым, што дзяцей вучыў? У тым, што аднавяскоўцаў бараніў ад рабаўнікоў? Доўгі час майго мужа і швагра называлі ў вёсцы "паліцайчыкамі". За што?

Але былі і сапраўдныя партызаны, якія дапамагалі нам выжыць у цяжкі час. Найперш гэта Канстанцін Казакоў, які пазней быў дырэктарам Пінскага індустрыяльна-педагагічнага тэхнікума, і яго жонка Марыя.

Што да немцаў, то і сярод іх сустракаліся добрыя людзі. Кухар з нямецкай палявой кухні падкормліваў нас, дзяцей вайны, даваў каву і хлеб. Захварэлага на тыф бацьку вылечыў нямецкі доктар. І бацька, мабілізаваны ў 1944-м у савецкую армію, дайшоў да Берліна...

Дзякуй Міхасю Скоблу, які ўзняў такую балючую для многіх тэму! Хочацца, каб нашы нашчадкі ведалі пра вайну ўсю праўду.

**Марыя МАКАРЭВІЧ,**
**былая настаўніца нямецкай мовы, выдатнік адукацыі Беларусі.**

*Мінск.*

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Мову трэба зберагчы!

Паважаны Іосіф Паўлавіч, хацеў бы падзякаваць Вам за ўвагу, якую "Народная Воля" надае розным актуальным і надзённым пытанням жыцця нашай краіны. Асабліва – праблеме захавання і развіцця беларускай мовы.

У «Народнай Волі» перыядычна з'яўляюцца цікавыя матэрыялы па гэтай тэме. Я з вялікім задавальненнем прачытаў ліст Якуба Коласа ў ЦК КПБ або, напрыклад, артыкул спадара Лявона Баршчэўскага «Нялёгкае змаганне за беларускую мову». Вельмі важна, што падобныя матэрыялы з'яўляюцца і прыцягваюць увагу шырокай грамадскасці.

Для мяне асабіста пытанне стану беларускай мовы надта вострае і балючае. І я лічу, што пра гэта трэба пісаць як мага болей.

Як казаў вялікі беларускі пісьменнік Якуб Колас, роднае слова – гэта першая крыніца, праз якую мы пазнаём жыццё і акаляючы нас свет. Мова з'яўляецца найвялікшым духоўным багаццем народа. Мова – душа народа, яго духоўнае ядро, тая вітальная сіла, што стварае трывалы падмурак яго жыццяздольнасці і развіцця.

Беларускі народ мае вельмі доўгую і цяжкую гісторыю, насычаную лёсавызначальнымі, пераважна драматычнымі падзеямі. Чырвонай рысай праз яе праходзіць барацьба супраць уціску з боку розных захопнікаў і прыгнятальнікаў, якія імкнуліся ўсяляк спляжыць і заціснуць нашы сімвалы і каштоўнасці, навязаць нам свае законы і парадкі. Але ў рэшце рэшт беларускі народ здолеў годна прайсці праз усе выпрабаванні і зберагчы адзін са сваіх галоўных здабыткаў – родную мову.

Надзвычай важная роля мовы абумоўлена некалькімі чыннікамі. Па-першае, яна з'яўляецца адметнай рысай народа, асновай яго самабытнасці і непаўторнасці, крытэрыем для аб'яднання людзей у пэўныя этнапалітычныя ўтварэнні. Па-другое, яна служыць злучальным мостам паміж рознымі пакаленнямі і эпохамі, сродкам назапашвання, захавання і перадачы культурна-гістарычнага багацця народа, яго традыцый і звычаяў. Так забяспечваецца непарыўная сувязь паміж рознымі этапамі гістарычнага развіцця народа, яго захаванне як адзінага этнакультурнага цэлага.

Вось чаму нам неабходна зберагчы сваю родную мову і перадаць яе ў спадчыну наступным пакаленням.

**З павагай –**
**Дзмітрый КУРАТНІК,**
**сталы чытач «Народнай Волі».**

*Брэст.*

ЭПИЗОДЫ ВОЙНЫ

# Тот необычный полет…

Сверхответственное задание доверили лучшему экипажу полка: пилоту старшему лейтенанту Николаю Шилкину, штурману лейтенанту Ивану Богданову и стрелку-радисту сержанту Ашоту Оганесяну. Был еще один человек в самолете – фотокорреспондент газеты «Красная Звезда» В.С.Овсянников, который поместился в кабине со стрелком-радистом…

Шел апрель 1945 года. Советская страна с нетерпением ожидала вести об окончательной победе над фашистской Германией. В этой связи особое значение приобретало появление в печати снимков рейхстага в канун его краха. Того самого черного логова, откуда выползла на белый свет кровожадная фашистская гидра, которая теперь, загнанная обратно в свое логово, все еще отчаянно сопротивлялась.

Набрав высоту, Пе-2 уверенно пошел по курсу. Штурман Богданов невольно подумал о том, как много в успешном выполнении экипажем боевой задачи будет зависеть сейчас от его умения. Время от времени он бросал взгляд на землю, сверяя естественные ориентиры с приборами и картой. Вот туго натянутой лентой растянулось под крылом шоссе… Все верно. Дальше должна быть речка… Есть! Вот она ящерицей запетляла по серо-зеленым квадратам полей…

Неожиданно всплыли в памяти такие же поля под родным городком Дубровно, что на Витебщине. Замелькали лица друзей детства, вспоминалась учеба на рабфаке… В выпускном классе многие ребята хотели поступить в авиаучилище. Но прошел придирчивую комиссию он один, Ванюша Богданов. Сколько было радости!..

Учеба в Харьковском авиаучилище штурманов. И… война.

Неудачным для молодого штурмана и его боевых товарищей оказалось ее начало. Только девятка бомбардировщиков Пе-2 поднялась в небо, как ее атаковала свора немецких истребителей. Эскадрилья в считанные минуты потеряла несколько машин. Попал вражеский снаряд и в самолет, где штурманом был младший лейтенант Богданов. Плечо офицера пронзила острая боль. Ранен! Но рука двигается. Ему и пилоту Бибикову удалось катапультироваться из горящей машины, стрелок-радист Тимошенко погиб…

«Фоккеры» пытались расстрелять парашютистов в воздухе. Пуля задела Богданова. К счастью, и это ранение оказалось легким. Успешно маневрируя парашютами, оба благополучно приземлились.

Первый бой хотя и окончился для однополчан Ивана Богданова столь неудачно, но ни на йоту не поколебал их горячего желания сражаться с захватчиками не на жизнь, а на смерть. Наоборот, он еще более укрепил их морально, настроил на неуклонное совершенствование боевого умения, чтобы никогда и ни в чем не уступать врагу.

Вскоре за мужество и высокое штурманское мастерство, проявленные при выполнении боевых заданий на Брянском фронте, ему вручается первая боевая награда – орден Красной Звезды. Представлен он был к ней после отлично проведенной разведки в районе Курска и точного бомбового удара по фашистским казармам в городе.

В конце 1942 года лейтенанта Богданова как одного из лучших штурманов откомандировывают на Северо-Западный фронт в 72-й Петрозаводский Краснознаменный отдельный разведывательный авиаполк. С этим полком и прошел он основную часть своего боевого пути. Служба в авиаразведке – особая служба, рассказать о ней в нескольких газетных колонках невозможно. Замечу лишь, что заслуги Богданова за время, проведенное в авиаразведке, были отмечены целым рядом высоких боевых наград…

И вот необычное задание. На этот раз, как я уже сказал, в самолете корреспондент «Красной Звезды». Снимки, сделанные им, увидит вся страна… Да, пусть посмотрят люди на это исчадие фашистского ада перед его гибелью. Пусть посмотрят… Ведь еще в первые дни войны наши дальние бомбардировщики, поднявшись с родной земли, долетали до этого логова, чтобы бомбовыми ударами предупредить его: «Кто к нам с мечом придет, тот от меча и погибнет!» Только разве можно было вразумить зверя?..

Линию фронта прошли на большой высоте. Но экипаж знает: главные трудности впереди. Чем ближе к Берлину, тем плотнее расположение средств противовоздушной обороны. Сам город ими переполнен, особенно – в районе рейхстага. Успех во многом зависит от того, как долго самолет останется необнаруженным. И тут главная надежда на штурмана. Богданов же спокоен. Он еще вчера произвел тщательный штурманский расчет полета, и теперь, четко используя карту и приборы, уверенно ведет экипаж по наиболее безопасному маршруту.

К городу, удачно обойдя его, приблизились со стороны солнца. Немцы самолет пока не видят – мешает солнце. А у штурмана в эти секунды самая ответственная задача: как можно быстрее найти в огромном сером месиве, раскинувшемся внизу, рейхстаг. Острие его карандаша мельтешит по кубикам, квадратикам и полоскам на карте города.

– Есть! Правее три градуса! – восклицает он. И тут же предлагает пилоту снизится еще: снимки должны быть четкими.

Корреспондент Овсянников приник к фотоаппарату. Принялся снимать из своего стационарного «разведаппарата» и штурман Богданов.

Опомнились вражеские зенитчики. Вокруг самолета запестрели вспышки взрывов – все плотнее и плотнее. Машина то и дело вздрагивает, снимать становится неимоверно сложно. Но Овсянников и Богданов, стремясь «выхватить» наиболее выразительный ракурс «логова», не отрываются от аппаратов. В корпус машины вонзаются несколько осколков. Однако благодаря умелому маневрированию пилота Шилкина прямых попаданий удается избежать. Наконец Овсянников удовлетворенно произносит: «Все!» Самолет набирает высоту. Уже на подлете к своим Пе-2 неожиданно атаковали два «фоккера». Их вовремя заметил стрелок-радист Оганесян. Шилкин резко положил машину на крыло. Огненные трассы врага не достигли цели. «Фоккеры» развернулись для новой атаки. Их безуспешно пытается поразить пулеметным огнем стрелок-радист. Богданов сбрасывает несколько «летучек». Бомбы, повиснув в воздухе на парашютах, одна за другой взрываются. Фашистские летчики, давно растерявшие за годы войны ту спесь и показную бесшабашность, с какими они начинали свой поход на «мировой коммунизм», предпочли далее не преследовать.

За отвагу и мужество, проявленные при выполнении этого задания штурман Богданов и пилот Шилкин были представлены к ордену Боевого Красного Знамени, стрелок-радист Ашот Оганесян – к ордену Красной Звезды. Снимок, сделанный корреспондентом В.С.Овсянниковым, появился в центральных и фронтовых газетах.

Уезжая, журналист сфотографировал экипаж и каждому подарил по карточке *(см.снимок)*. Бережно хранил эту фотографию в личном боевом «архиве» Иван Богданов. Сейчас она вместе с четырьмя орденами Боевого Красного Знамени, двумя – Красной Звезды, орденом Отечественной войны 1-й степени, медалью «За боевые заслуги» и другими наградами бережно хранится в семейном архиве сына ветерана – минчанина Михаила Богданова.

Было бы, думается, несправедливым не сказать несколько слов и о том, как сложилась в дальнейшем жизнь Ивана Михайловича Богданова. А сложилась она весьма достойно. После войны он продолжил служить в авиации, целеустремленно передавая свой боевой опыт и знания новому поколению штурманов. Потом подполковник запаса много лет трудился на Минском механическом заводе имени С.И.Вавилова.

**Валерий ТАТАРЦЕВ.**

*Минск.*



**На фото (слева направо): Иван Богданов, Николай Шилкин, Ашот Оганесян. 1945 год.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
19 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

ЛІКБЕЗ




Сёння абрэвіятура НАТА рэгулярна з'яўляецца як у выступленнях беларускіх афіцыйных асоб, так і ў сродках масавай інфармацыі, у тым ліку дзяржаўных. Прычым у адрозненне ад яшчэ адносна нядаўніх часоў зараз гэтая арганізацыя далёка не заўсёды згадваецца ў негатыўным кантэксце.

Тым не менш не будзе вялікім перабольшваннем сцвярджаць: беларускае грамадства не вельмі добра ведае, што дакладна ўяўляе сабой Паўночнаатлантычны альянс, і ў большасці сваёй беларусы ставяцца да яго з пэўнай насцярожанасцю. Усё ж дзесяцігоддзі жыцця ў Савецкім Саюзе, калі НАТА нязменна асацыіравалася са смяротнай пагрозай, не маглі не накласці адпаведнага адбітку на свядомасць.

Таму падаецца мэтазгодным даць больш падрабязную і аб'ектыўную інфармацыю пра структуру, у якую ўваходзяць практычна ўсе вядучыя дзяржавы Еўропы і Паўночнай Амерыкі і без якой сёння немагчыма ўявіць сабе сусветную сістэму бяспекі, а таксама пра яе адносіны з Расіяй і Беларуссю.

Хочацца спадзявацца, што гэта дазволіць нашым грамадзянам зразумець, ці існуе насамрэч з боку НАТА пагроза суверэнітэту Беларусі, аб чым іншым разам сцвярджаецца яшчэ з высокіх трыбун. Гэта можа дапамагчы ім, калі спатрэбіцца, зрабіць асэнсаваны выбар знешнепалітычнага курсу і, як вынік, лёсу дзяржавы.

## Стварэнне

НАТА (Паўночнаатлантычны альянс) быў створаны на аснове Паўночнаатлантычнай дамовы, падпісанай у Вашынгтоне 4 красавіка 1949 года для забеспячэння калектыўнай абароны ў адпаведнасці з артыкулам 51 Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Гэта дамова, якую падпісалі тады Бельгія, Вялікабрытанія, Данія, ЗША, Ісландыя, Італія, Канада, Люксембург, Нарвегія, Нідэрланды, Партугалія і Францыя, з'яўляецца бестэрміновай. Пазней у розныя часы да яе далучыліся яшчэ 17 еўрапейскіх краін, так што на сённяшні дзень у альянс уваходзяць 29 дзяржаў.

Галоўнымі артыкуламі Вашынгтонскай дамовы з'яўляюцца чацвёрты і пяты.

***Артыкул 4.*** *Бакі будуць праводзіць кансультацыі адзін з адным кожны раз, калі, паводле меркавання любога з іх, будуць падвяргацца пагрозе тэрытарыяльная цэласнасць, палітычная незалежнасць і бяспека любога з Бакоў.*

***Артыкул 5.*** *Бакі пагаджаюцца з тым, што ўзброены напад на адзін ці некалькі з іх у Еўропе ці Паўночнай Амерыцы будзе разглядацца як напад на іх у цэлым, і такім чынам пагаджаюцца з тым, што ў выпадку, калі падобны ўзброены напад будзе мець месца, кожны з іх у парадку ажыццяўлення права на індывідуальную ці калектыўную самаабарону, якое прызнаецца артыкулам 51 Статута Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, акажа дапамогу Боку ці Бакам, што падвергліся падобнаму нападу, шляхам неадкладнага ажыццяўлення такога індывідуальнага ці сумеснага дзеяння, якое палічыць неабходным, уключаючы ўжыванне ўзброенай сілы, з мэтай аднаўлення і наступнага захавання бяспекі Паўночнаатлантычнага рэгіёна.*

*Пра любы падобны ўзброены напад і ўсе прынятыя ў выніку яго меры неадкладна паведамляецца Савету Бяспекі. Падобныя меры павінны быць спынены, калі Савет Бяспекі прыме свае меры, неабходныя для аднаўлення і падтрымкі міжнароднага міру і бяспекі.*

Тут варта звярнуць увагу на тую акалічнасць, што насуперак агульнапрынятым меркаванням дамова не прымушае членаў арганізацыі абавязкова браць удзел у баявых дзеяннях сваіх хаўруснікаў, нават калі тыя падвергліся ўзброенаму нападу. Гэта пакідаецца на разгляд кіраўніцтва суверэннай краіны.

Яшчэ адна істотная асаблівасць НАТА – усе рашэнні прымаюцца там выключна кансэнсусам, то бок гіпатэтычна Ісландыя, якая ўвогуле не мае ўласных узброеных сіл, можа заблакіраваць любую дамоўленасць, з якой згодны астатнія 28 членаў Альянса.

Канешне, гэтыя прынцыпы не трэба абсалютызаваць: у большасці застаецца магчымасць якімсьці чынам пераканаць ці заахвоціць нязгодных зняць свае пярэчанні, аднак нельга адмаўляць, што арганізацыя пабудавана на дэмакратычнай аснове.

## Структура

У артыкуле 9 вызначана, что арганізацыйная структура НАТА засноўваецца на адным уладным інстытуцыянальным органе – савеце, які адказвае за ажыццяўленне дамовы і стварэнне ўсіх неабходных дапаможных органаў.

За першыя 40 гадоў свайго існавання НАТА неаднаразова падвяргалася рэформам і рэарганізацыі з мэтай адаптацыі да новых рэалій і захавання бяспекі дзяржаў-членаў на больш канструктыўнай і трывалай аснове.

Галоўнымі кіруючымі органамі Паўночнаатлантычнага альянсу з'яўляюцца Паўночнаатлантычны савет, Камітэт ваеннага планавання і Група ядзернага планавання. Рашэнні, якія прымаюцца кожным з гэтых органаў, маюць аднолькавы статус і адлюстроўваюць узгодненую палітыку дзяржаў-членаў незалежна ад узроўню, на якім яны прымаюцца.

Паўночнаатлантычны савет валодае рэальнай палітычнай уладай і правам прыняцця рашэнняў. У яго ўваходзяць пастаянныя прадстаўнікі ўсіх дзяржаў-членаў, якія збіраюцца на пасяджэнні не радзей аднаго разу ў тыдзень. Сесіі Савета НАТА праводзяцца таксама на больш высокіх узроўнях – міністраў замежных спраў, міністраў абароны ці кіраўнікоў дзяржаў і ўрадаў, але пры гэтым паўнамоцтвы Савета і права прымаць рашэнні застаюцца ранейшымі, і рашэнні маюць аднолькавую юрыдычную сілу.

Камітэт ваеннага планавання звычайна працуе ў складзе пастаянных прадстаўнікоў, аднак не радзей двух разоў у год яго пасяджэнні праводзяцца на ўзроўні міністраў абароны. Ён займаецца большасцю ваенных пытанняў і задач, якія адносяцца да планавання калектыўнай абароны. Камітэт ваеннага планавання накіроўвае дзейнасць кіраўнічых ваенных органаў НАТА. У межах кола сваіх абавязкаў ён выконвае тыя ж функцыі і валодае такімі ж правамі і паўнамоцтвамі, што і Паўночнаатлантычны савет.

Тыя ж міністры абароны, якія ўдзельнічаюць у працы Камітэта ваеннага планавання, праводзяць рэгулярныя пасяджэнні і ў рамках Групы ядзернага планавання, дзе яны абмяркоўваюць пэўныя палітычныя пытанні, якія тычацца ядзерных сіл. Гэтыя нарады ахопліваюць шырокае кола пытанняў палітыкі ў сферы ядзернай зброі, у тым ліку захавання бяспекі, аховы і жывучасці ядзернай зброі, сістэм сувязі і інфармацыі, разгортвання ядзерных сіл, а таксама больш шырокія пытанні, што выклікаюць агульную заклапочанасць, такія як кантроль над ядзернай зброяй і яе распаўсюджванне.

Гэтым галоўным органам падпарадкаваны спецыялізаваныя камітэты і групы, якіх налічваецца каля чатырох дзясяткаў. Яны ахопліваюць самыя розныя сферы дзейнасці, як, напрыклад, кантроль над звычайнымі ўзбраеннямі, супрацьпаветраную абарону, навуку, архіўныя справы, стандартызацыю, эканоміку, трубаправоды і г.д.

Штаб-кватэра НАТА знаходзіцца ў Брусэлі, зусім нядаўна яна атрымала новы будынак коштам каля 1 мільярда еўра.

Што тычыцца непасрэдна ўзброеных сіл альянсу, дык у яго няма сваіх баявых часцей і падраздзяленняў, акрамя тых, што вылучаюцца дзяржавамі-членамі ці прадастаўляюцца дзяржавамі-партнёрамі для правядзення канкрэтных аперацый. Таму ўзброеныя сілы НАТА падзяляюцца на аб'яднаныя ўзброеныя сілы (АУС), перададзеныя ў яго распараджэнне, і сілы, якія застаюцца ў нацыянальным падначаленні.

Сумарная колькасць усіх вайскоўцаў НАТА ў 2016 годзе складала каля 3,2 мільёна чалавек. АУС складаюцца з ядзерных сіл на тэатры вайны і сіл агульнага прызначэння. Ядзерным сілам адводзіцца роля стрымліваючага фактару для патэнцыяльных агрэсараў. Яны ўключаюць эскадрыллі самалётаў-носьбітаў тактычнай авіяцыі.

Сілы агульнага прызначэння з'яўляюцца найбольш значнымі па колькасці і прадстаўлены фарміраваннямі сухапутных войскаў, ваенна-паветраных і ваенна-марскіх сіл. Яны падзяляюцца на сілы рэагавання, прызначаны для першачарговага задзейнічання, галоўныя абарончыя сілы і войскі ўзмацнення.

Вярхоўнае галоўнакамандаванне Аб'яднанымі ўзброенымі сіламі размешчана ў Монсе, у 60 кіламетрах ад Брусэля. У рамках агульнага камандавання ў Еўропе функцыянуюць два рэгіянальныя: саюзных сіл Паўночнай Еўропы – штаб-кватэра у г.Брунсум (Нідэрланды) і саюзных сіл поўдня Еўропы – у Неапалі.

Хоць публічна гэта не агалошвалася, але ніколі не ўзнікала сумненняў, што ці не адзінай мэтай заснавання НАТА была абарона Еўропы ад савецкай агрэсіі, і ўсё яе развіццё ішло менавіта ў такім напрамку. Якраз адносінам альянсу з Савецкім Саюзам падчас "халоднай вайны" і будзе прысвечаны наступны артыкул.

**Андрэй ФЁДАРАЎ.**

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Першанасельнікі беларускай зямлі



Вядома, што першыя людзі на тэрыторыі, якая належыць сёння Беларусі, з'явіліся каля 100 тысяч гадоў таму. Пра гэта сведчаць даўнія каменныя прылады, знойдзеныя каля вёскі Абідавічы Быхаўскага раёна, ва ўрочышчы Каменная Гара побач з вёскай Свяцілавічы Веткаўскага раёна. Паступова асобныя стаянкі чалавека перарасталі ў паселішчы. На гэта спатрэбілася каля 40–70 тысяч гадоў. Поўнасцю ж беларускія землі былі асвоены людзьмі толькі ў 9–5 тысячагоддзях да нашай эры.

Вось такі прыкладны жыццяпіс першанасельнікаў нашай зямлі. Але ж поруч з чалавекам жылі і дагістарычныя жывёлы. Згадаем хоць бы легендарных мамантаў. Пра іх з'яўленне наўрад ці ведае хто дакладна, а вось прычыну знікнення назаве кожны – вінаваты ледавікі.

Так, па зямлі, якая з'яўляецца прарадзімай Беларусі, ледавікі то рашуча наступалі і заставаліся тут дзясяткамі тысячагоддзяў, то марудна, быццам нехаця, адступалі: усяго па некалькі дзясяткаў метраў за год. Як вялізным нажом зразалі яны ўсё, што траплялася на шляху, магутным прасам раўнялі зямлю. А перад сабой сунулі горы камення, векавечных дрэў, тысячы тон іншага друзу. Усё гэта невымернай тоўшчай накрыла і назаўсёды схавала ад даследчыкаў стаянкі найстаражытнейшых людзей.

Ледавікі не толькі руйнавалі спрыяльную для жыцця прыроду, яны вынішчалі альбо выганялі з асвоеных тэрыторый самога чалавека, цеплалюбівых жывёл. Адзін з больш позніх ледавікоў каля 25 тысяч гадоў таму пакінуў пасля сябе спрыяльныя і прыдатныя для "бязбеднага" існавання ўмовы. Тады і пачалі з'яўляцца першыя пасяленні дагістарычных прашчураў беларусаў.

Быў акурат той спрыяльны час палеаліту, калі чалавек актыўна асвойваў новыя тэрыторыі. Пра гэта сведчаць адкрытыя археолагамі самыя старажытныя стаянкі першабытных людзей на тэрыторыі Беларусі. Яны выяўлены поруч з вёскамі Бердыж Чачэрскага і Юравічы Калінкавіцкага раёнаў. Тады ж каля сучаснага пасёлка Краснасельскі, што ў Ваўкавыскім раёне, пачалі дзейнічаць першыя на Беларусі шахты, дзе здабывалі крэмень. Там былі і першыя майстэрні па вырабе сякер, дроцікаў, нажоў, іншых прылад. Гэта спрыяла развіццю палявання. Не толькі на тура, высакароднага аленя альбо ліслцу з зайцам, а і на магутнага маманта.

Безліч было іх тады на беларускай зямлі. І не толькі мамантаў, а і іхніх супляменнікаў – валасатых насарогаў, авечкабыкоў, шмат іншых дзікіх жывёл. Найбольш у поймах Дзвіны, Дняпра, ля Прыпяці, на берагах легендарнага мора Герадота.

Рэкі сталі ці не самымі старажытнымі беларускімі археолагамі: яны вымывалі першыя стаянкі чалавека, рэшткі міжледавіковых жывёлін. Здаралася, з зямлі вылушчваліся велізарныя, выбеленыя часам косці маманта.

Ягоныя чарапы часам нагадвалі магутныя ледавіковыя валуны. Захавалася паданне, што каля адной з вёсак Чачэрскага раёна знаходзіўся валун-чэрап, які ўрос у зямлю. Ён служыў зручным месцам для адпачынку пастухоў. А лічылі яго, пакуль не высветлілася праўда, звычайным каменем.

На беларускай зямлі выяўлена амаль 200 знаходак касцей маманта. Адшукалі нават цэлыя шкілеты гэтай млекакормячай жывёліны, якая ўпершыню з'явілася на свет больш за 200 тысячагоддзяў таму. Мо акурат у той памятны шосты дзень Божага тварэння, калі "стварыў Бог звяроў зямных па родзе іхнім, і скаціну па родзе яе, і ўсіх гадаў зямных па родзе іхнім".

Рэшткі мамантаў упершыню знойдзены каля Міра, пасля – каля Петрыкава, Оршы, вёскі Сухары, што ў Магілёўскай вобласці. Сваімі памерамі і вагой старажытныя маманты палохалі чалавека. Адны толькі іклы мелі ў даўжыню да 3 метраў, важылі больш за 100 кілаграмаў. Даўжыня цела складала 4 метры, а ўвышкі ён дасягаў трох з паловай метраў. Быў пакрыты бурай поўсцю метровай даўжыні.

Аднак чалавек не пасаваў перад магутнымі жывёлінамі. Хітрасць трэніравала розум, а разумнасць вымагала шукаць дасканалыя спосабы палявання. Калі не выручала дубіна ці рагаціна, на дапамогу прыходзіла хітрасць. Капалі лоўчыя ямы, ладзілі петлі, іншыя прыстасаванні. Рабілі гэта найперш на вадапойных шляхах, калі смага прытупляла пільнасць жывёлы. Хоць ад гэткіх авантур і патыхала небяспекай, ды паляўнічы азарт перамагаў страх. А мо рухала чалавекам звычайная патрэба харчавацца? Трава, жалуды, рыба, вядома, добра, але ж і мяса нікому не шкодзіла. Упалюеш аднаго такога велікана – і маеш тон сем жаданага далікатэсу.

А яшчэ маманты сталі прычынай з'яўлення прафесіі будаўніка. З велізарных касцей гэтай жывёліны першабытныя людзі будавалі сабе жыллё. Адной лапаткі хапала на цэлую сцяну. Костак жа тых была цэлая гара – майструй сабе хоць сапраўдны палац. Толькі прыкрая нязручнасць дакучала першабудаўнікам. Аднаму тую костку і з месца не зрушыць. Дык ці не ў той даўні будаўнічы час запачаткавалася знакамітая талака, якая і дагэтуль добра вядома беларусам?

Рэбры маманта скарыстоўвалі ў якасці латаў. Скура магла б згадзіцца на страху, аднак зацягнуць яе на рэбры-латы не маглі нават талакой, бо важыла яна некалькі тон. Па хрыбце, калі паставіць яго вертыкальна, найбольш смелыя і дапытлівыя маглі б не адно залезці на самае высокаае дрэва, але і зазірнуць на сёмае неба альбо на той Парнас, дзе пашчасціла пабываць палясоўшчыку Тарасу з вядомай беларускай паэмы "Тарас на Парнасе".

Вось так у калектыўных клопатах пра хлеб надзённы ды пра сховы ад дажджу і дабрылі беларусы да сапраўднай цывілізацыі.

НОВОСТИ ГЕРМАНИИ

# Для беженцев отменят помощь?

*Глава МВД Германии Хорст Зеехофер планирует достичь почти полной отмены денежной помощи для просителей убежища. Об этом сообщает Deutsche Welle.*

План относительно беженцев, разработанный Зеехофером, предусматривает резкое сокращение размеров выплат беженцам. Председатель Христианско-социального союза (ХСС) предлагает почти полностью заменить помощь неденежными видами социальной помощи.

Кроме того, министр внутренних дел Германии намерен продлить с 15 до 36 месяцев период, в течение которого просители убежища получают базовую помощь, прежде чем выплаты поднимаются до уровня обычных социальных пособий.

Как отмечается, эти два пункта не найдут поддержки у Социал-демократической партии Германии (СДПГ), входящей в правящую коалицию. В январе, когда премьер-министр Баварии Маркус Зедер представил похожий план, социал-демократы заявили об «издевательствах» над беженцами.

Генеральный план политики в отношении беженцев, разработанный Зеехофером, содержит 63 пункта. Глава МВД Германии 19 июня представит его федеральному правительству.

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Немцы поддерживают главу МВД, а не Меркель в вопросе миграции

*Большинство немцев поддерживают жесткую линию миграционной политики, которую отстаивает глава МВД Хорст Зеехофер в споре с канцлером Ангелой Меркель.*

*Об этом свидетельствуют результаты опроса Infratest poll, сообщает The Local.*



Основной спор между Зеехофером и Меркель заключается в том, что глава МИД, который одновременно возглавляет ХСС, требует разрешения для приграничных земель отказывать соискателям убежища, если они зарегистрировались в другом государстве ЕС или если в Германии им уже было отказано в убежище.

Меркель стремится избежать односторонних шагов Германии, которые могут раздражать другие страны-члены ЕС и еще больше ослабить усилия, направленные на общую миграционную политику для всего ЕС.

62% респондентов высказались за то, чтобы разворачивать на границе незарегистрированных мигрантов в соответствии с предложением Зеехофера.

Кроме того, 86% немцев поддерживают ускорение депортации просителей убежища, которые получили отказ на свои заявления в Германии. Сейчас этот процесс часто задерживается из-за бюрократических препятствий и юридических проблем.

## С начала года в Германии подали 78 тысяч прошений об убежище

*Об этом сообщает Deutsche Welle со ссылкой на статистику МВД Германии.*

В сравнении с прошлым годом поток просителей убежища несколько снизился. За первые полгода 2017-го просителей было более 90 тысяч.

Отмечается, что с января до середины июня 2018 года получены данные 18,3 тысячи искателей убежища, которые уже зарегистрированы в европейской базе биометрических данных Eurodac. Согласно Дублинским соглашениям, прошение об убежище должно подаваться в той стране ЕС, в которую беженец впервые въехал.

Федеральная полиция также сообщила, что за январь–апрель 2018 года зафиксировано 14,7 тысячи нелегальных въездов, 3,9 тысячи человек отправлены обратно. Решение не позволять беженцам попасть на территорию ФРГ было возможным лишь в местах с пограничным контролем, а именно на границе Германии и Австрии, а также в аэро- и морских портах.

## В Германии мальчик получил мобильный счет на 12 тысяч евро

*Немецкая семья получила неприятный сюрприз после короткого круиза в Норвегию – их сын использовал во время путешествия интернет-данные объемом менее половины гигабайта и получил счет более чем на 12 тысяч евро.*

*Об этом сообщает Deutsche Welle.*

Семья совершала круиз из северогерманского города Киль в норвежскую столицу Осло. Во время поездки их 12-летний сын решил посмотреть несколько видео на своем мобильном телефоне.

Он подключился к сети круизного судна, которая имеет выход в интернет через спутник.

Немецкие мобильные операторы могут требовать 30 евро за мегабайт данных, загруженных через спутниковую связь. Отмена платы за роуминг в ЕС в море не действует. В результате мобильный оператор предъявил семье счет в 12.500 евро за 470 мегабайт данных.

Телефонная сеть согласилась уменьшить счет, признав, что мальчик не знал, что подключился к сети судна. Тем не менее от семьи требуют уплатить 5000 евро.

Семья наняла адвоката, чтобы решить проблему, как они говорят, «с аморальным счетом».

Народная Воля http://www.nv-online.info
19 ЧЭРВЕНЯ 2018 г.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–48.)*

## У разведку пасылаюць бязбацькавіча

Не толькі 1942-і, але і 1943 год, асабліва яго пачатак, прынёс нашай сям'і шмат гора, трывог. У першы месяц года з Язвін перабралася да нас ад роднай дачкі Надзі ў прадчуванні смерці татава маці Магда. Яна не памылілася: смерць прыйшла да яе прыкладна праз месяц пасля пераезду ў Магільнае. Мне належала неадкладна паведаміць пра гэта яе дачцэ Надзі. На шчасце, у хляве стаяў пакінуты знаёмымі партызанамі вельмі добра дагледжаны конь, паколькі яны вырашылі пешшу накіравацца з Магільнага на выкананне баявога задання. Не мінула і паўгадзіны, як я ўжо на вялікай хуткасці ўварваўся ў Язвіны, чым прыцягнуў да сябе ўвагу партызанаў з першага дома вёскі. Пачуў стрэл з ружжа, што абавязвала мяне спыніцца. Тут жа падбеглі партызаны і загадалі злезці з каня. Мае тлумачэнні, што еду перадаць цётцы пра смерць яе мамы, ніхто не пажадаў слухаць. Пакуль даваў тлумачэнні, партызаны падвялі свайго каня, каб абмяняць на майго. Я стаў даказваць, што ў мяне партызанскі конь, называць прозвішчы тых, хто пакінуў яго ў нас. Нішто не дапамагло. Пасадзілі мяне на абмененага каня, і я, не падазраючы, што гэта за кляча, паехаў да цёткі. Яна была на двары, і я, не заходзячы ў хату, паведаміў пра мэту свайго прыезду і рушыў у адваротны шлях. Усе мае спробы прымусіць каня бегчы рыссю не давалі жаданага выніку, таму ў Магільнае вярнуўся ў прыцемкі. Здзівіла, што нікога не сустрэў на вуліцы. Убачыў на двары аднаго з дамоў 80-гадовага дзеда, ад якога даведаўся, што ўсе людзі паўцякалі ў лес у свае зямлянкі, бо прыйшла чутка аб набліжэнні да Магільнага нямецкага карніцкага атрада. Можа, я выбраў і памылковае рашэнне, не ўзяўшы пад увагу, што ў любы момант могуць наляцець немцы, але іншага выйсця не знаходзіў, як заехаць дамоў, напаіць і накарміць каня ды і самому штосьці перакусіць. Трэба было таксама цяплей апранущца і абуцца ў дарогу. Тое, што бабка ляжала ў труне і я адзін быў у хаце, мяне нікольки не палохала. І вось я адзін, калі ўжо па-сапраўднаму ўсталявалася ноч, падаўся ў лес шукаць нашу сям'ю. Мае спадзяванні, што конь пасля таго, як я накарміў і напаіў яго, памчыцца рыссю, не спраўдзіліся, таму далёка не падаўся, спыніўся каля першых жа зямлянак. Людзей здзівіла мая інфармацыя пра адсутнасць немцаў у Магільным.

– А можа, гэта проста паніка, – пачуўся чыйсьці голас у цемры. – Нам бы арганізаваць разведку, і, калі немцаў няма, навошта гібець у зямлянках, слухаць, як енчаць дзеці? Дый скаціна галадае там дома.

Гэтаму ніхто не запярэчыў, і мужчыны пачалі абмяркоўваць кандыдатуру на разведчыка. Палічылі, што ім павінен быць не дарослы мужчына, а хлопец. Спыніліся на мне. Так ужо хвалілі мяне, што я не асмеліўся аспрэчваць. Залез на каня – і зноў у дарогу. Прымусіць яго бегчы ніяк не ўдавалася, таму ў галаў прыйшла думка: які ж я разведчык на кані, калі ён не здольны бегчы? Варочаюся назад, чым здзівіў многіх. Мае довады, што конь можа ісці толькі шагам, не прынялі пад увагу. Запэўнілі, што пасля непрацяглага адпачынку, добрага харчавання да яго вернуцца сілы, і настаялі, каб я ўсклаў на сябе пачэсны гераічны абавязак разведчыка. Узяў і паверыў сказанаму, таму не стаў адбівацца. Да таго ж мне трохі падабаўся той давер…

Дзесьці апоўначы я зайшоў у нашу хату і, скінуўшы верхнюю вопратку, палез на печ спаць. Да канца яна яшчэ не астыла. На вуліцу выйшаў ужо тады, калі добра развіднела. Сям-там паказваліся людзі, у асноўным сталага веку.

Зіма 1942/1943 гадоў аказалася мяккай, Нёман не пакрыўся лёдам. Я сябе спакойна адчуваў, бо спадзяваўся, што калі з боку Вузды будуць рухацца немцы, то, пакуль яны пераправяцца цераз раку (масты ж партызаны падпалілі), я далёка дамчуся ў лес. Мае меркаванні аказаліся памылковымі. Немцы рухаліся ў Магільнае з зусім процілеглага боку – з нясвіжскага напрамку. Пра гэта стала вядома вельмі позна, але трэба было ратавацца. Па вуліцы нясуся рыссю, але, як толькі выехаў на ўскраек мястэчка, параўняўся з будынкам школы, конь нечакана стаў, і, як я ні лупіў яго пугай, ён не зрушыўся з месца. Заўважаю, што ў лесе, недалёка ад якога я павінен быў праляцець на кані па дарозе ў невялічкі пасёлачак Матэцкія, мітусяцца людзі. Значыцца, далей ужо рухацца пешшу па гэтай дарозе ніяк не выпадала, бо сам трапіш у рукі карнікаў. Паратунак шукаў у будынку школы, ад якой засталіся толькі адны сцены. Забіўся ў кут, дзе згрувасціліся розныя непрыгодныя рэчы, рэшткі школьнай мэблі, абсталявання. Гэта мяне не выратавала. Як толькі немец з пісталетам ускочыў на падаконнік, адразу заўважыў мяне і з крыкам "Партызан!" зрабіў прыцэльны выстрал па мне. Куля праляцела ў некалькіх сантыметрах ад галавы. Я адразу падняўся, каб даць карніку зразумець, што па ўзросце не магу быць партызанам. Немец хуценька ляцеў да мяне, паўтараючы "Партызан!", на што я ў вялікім сполаху адказаў: "Nein. Guten Tag". Гэтыя словы не дапамаглі: ударам пісталета па галаве (добра, што на ёй была завязаная пад падбародкам зімовая шапка) зваліў мяне на дол, але не стаў дабіваць, відаць, пераканаўся, што я не партызан. Пасля ўдару ўсё шумела ў галаве. Спрабаваў устаць – не змог і працягваў сядзець, прытуліўшыся да сцяны. Пацягнула на сон, але спаць не давялося, бо перашкодзіў салдат у нямецкай форме. Свядома не называю яго немцам, таму што ён загаварыў са мною на трохі зразумелай мне мове, толькі не на ўкраінскай ці польскай. Патлумачыў, што іх атрад не будзе знішчаць цывільнае насельніцтва, таму мне лепш ісці дахаты, чым хавацца ў гэтым будынку. Дапамог устаць на ногі, і мы разам выйшлі на маю Кавалёўскую вуліцу. Тут я сустрэў пяць-шэсць моцна спалоханых хлопцаў, якія не ведалі, што рабіць: як-небудзь шмыгануць у лес ці разысціся па сваіх хатах. Я прапанаваў пайсці да мяне, і яны пагадзіліся.

Доўга сядзець у хаце не давялося. Рыпнула брамка, і на двары з'явіўся немец. Хлопцы, як сядзелі каля труны бабы, так і не зварухнуліся з месца. Я ж забег у спальню і схаваўся пад ложак. Немец вывеў хлопцаў на двор, а затым спытаўся, ці не застаўся хто-небудзь у хаце. Можа, з хвіліну ўсе маўчалі, а затым Грышка Туміловіч сказаў, што адзін з хлопцаў схаваўся, і павёў немца ў хату, у спальню і паказаў пальцам на ложак. Немец ухапіўся за маю руку, працягнуў два-тры метры па падлозе і стукнуў ботам пад нецэнзурнае месца, якое месяцы за тры да таго моцна выцялі партызаны, забіраючы ў нас свінню. Боль быў страшэнны, я ледзь рухаўся з хлопцамі і немцам да прызначанага месца. А ім стала невялічкая хата на Нясвіжскай вуліцы. Усіх, каго толькі ўдалося вылавіць у мястэчку, сагналі ў яе. Людзі ў ёй стаялі ўшчыльную адзін да аднаго. Я не мог стаяць з-за цяжкіх пабояў і папрасіўся залезці на печ. Людзі дапамаглі мне ў гэтым. Усе лічылі, што нас сагналі ў хату дзеля фізічнай расправы. Разам з намі спаўна дзяліў сумеснае гора мясцовы поп. Увесь час чытаў малітву, даваў людзям цалаваць крыж. Да папа немцы ставіліся з павагай, і адзін з іх увесь час знаходзіўся каля яго. Разы два ці тры немец разам з папом па невядомых для нас прычынах выклікаліся на двор, што заўсёды суправаджалася істэрычным крыкам загнаных у хату людзей, бо ўсе думалі, што надыходзіць канец. Гэтыя крыкі ўнімаліся толькі тады, калі ў хату зноў заходзілі поп з немцам. З рук у рукі загнаных у хату людзей перадаваўся для цалавання крыжык. Прыйшла чарга і тых, хто сядзеў на печы ці на яе прымурку. Я, як артадаксальны савецкі піянер, заплюшчыў вочы, каб не выконваць гэтага рэлігійнага рытуалу. Вельмі набожная суседка па печы бабка Зося (жыла праз дом ад нас), бачачы, што я ні разочку не перахрысціўся, узяла і сама выканала для мяне такі абрад. Я не супраціўляўся, бо вельмі паважаў яе. Яна была самай пісьменнай у мястэчку: яшчэ недзе ў 80-я гады XIX ст. скончыла мясцовую царкоўнапрыходскую школу, цікава апавядала, як разам з настаўнікам самастойна раскопвала Магільнянскае замчышча, побач з ім на дне ракі Нёман знайшлі цэлы куфар з рознымі рэчамі.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

НОВЫЕ ИМЕНА

# Быть скрипачкой красиво и… больно

*Во Всемирный день музыки на сцене Белгосфилармонии будет солировать великолепная Саша Арбузова.*



Когда скрипачка Саша Арбузова выходит из служебного входа Белгосфилармонии, ее, бывает, не узнают не то что зрители, которые ей только что бисировали в экстазе, но и музыканты, с которыми она выступала на сцене. Потому что перед публикой Саша – солистка, она выше, взрослее и даже красивее в мамином платье до пола и с ярким цветком в длинных распущенных волосах. А после концерта 14-летний подросток опять становится девочкой маленького роста, ученицей музыкальной гимназии при Академии музыки со скрипочкой за плечами.

Конечно, все заслуги остаются при скрипачке всегда – талант, работоспособность, многочисленные лауреатства на международных конкурсах. Но регалии, как известно, на лице не написаны. А написаны порой усталость и даже боль. Потому что на шее у всех скрипачей, а у юных особенно, – мозоль от инструмента, который обычно прижимаешь к себе как ребенка. И мозоль порой воспаляется… А еще жжет кожу на подушечках пальцев от постоянного прикосновения к металлическим струнам скрипки. В общем, тело сопротивляется музыке. Но телом правит душа, а она у Саши Арбузовой отдана скрипке.

– Саша рождена для сцены, – считает маэстро Анисимов. – Чувство ритма, стиля, наконец чувство собственного достоинства – все есть в юной белорусской скрипачке. И потом ей очень повезло с педагогом – талантливой скрипачкой Еленой Мальцевой.

Через несколько дней Саше Арбузовой предстоит ответственный концерт в Большом зале Белгосфилармонии вместе с главным симфоническим оркестром страны под управлением народного артиста Александра Анисимова. Причем выступление состоится 21 июня, а это Всемирный день музыки. В общем, далеко не рядовое выступление.

Саша Арбузова будет исполнять Концерт для скрипки с оркестром ре минор Арама Хачатуряна. Сложное произведение, композитор посвятил его великому Давиду Ойстраху, и скрипачу тогда было больше 30 лет. А Саше сегодня всего четырнадцать… Я спросила, волнуется ли она.

– Перед концертом не очень. Потому что если я все выучила, то у меня все получится, – с обескураживающей искренностью сказала мне скрипачка. И продолжила: – Концерт сложный, потому что очень большой объем, 34 страницы только моего скрипичного текста. Но это интересно. Зато потом будет легче играть всю остальную музыку, потому что таких больших концертов написано очень мало. Разве только у Петра Ильича Чайковского – 31 страница. Впрочем, у него концерт гораздо труднее – прямо закачаешься!

И Саша зажмурила глаза. Но не от страха – мне показалось, от удовольствия.

Первый раз на Большую сцену Белгосфилармонии Саша Арбузова вышла в девять лет, всего через три года после того, как она начала заниматься на скрипке. Это совершенно уникальный случай. Причем инструмент для занятий музыкой Саша выбрала самостоятельно, твердо отказавшись от пианино, на которое ее сначала записала мама. Как рассказывает девочка, в один прекрасный день она услышала фрагмент из сюиты "Шехерезада" Римского-Корсакова, и ей очень понравился звук скрипки. В тот же вечер малышка сказала родителям, что к пианино больше не подойдет, потому что: "Мой любимый инструмент – скрипка!" И потребовала: идем ее покупать. Мама взмолилась: "Дочка, поздно, магазины закрыты".

Теперь у Саши в руках хороший инструмент 1909 года из Чехии. Заниматься надо каждый день по четыре часа. Это неписаное правило. Но перед концертами и конкурсами норма растворяется в бесконечности. Главное – соседей не беспокоить, но с ними у семьи Арбузовых договор: Саша не играет раньше 10 утра, а также позднее 10 вечера. А целый день – пожалуйста.

– И ты действительно мечтала о таком рабстве?

– Действительно. Это добровольная тюрьма.

– У тебя, Александра, ручки маленькие, а вот, оказывается, такие сильные. Это что, миф, что у скрипача должны быть большие руки?

– Наверное, дело не в руках...

– А мечта у тебя сегодня есть?

– Есть. Ночью хочу поиграть. Вот если поеду отдыхать на дачу...

И тут мне вспомнился знаменитый Владимир Спиваков. Он, рассказывали его коллеги, приехал однажды на море и сказал: "Отдохну наконец-то…" И по шесть часов в день занимался на скрипке.

Так закаляется талант. А вы думали, что бывает иначе?

**Елена МОЛОЧКО.**

РЭГІСТРАТУРА

# «Такіх спецыялістаў – адзінкі»

*У «лечкамісіі» адкрылася новае аддзяленне – кардыяхірургічнае, яго ўзначаліў кандыдат медыцынскіх навук Аляксандр Шкет.*

Новае аддзяленне ў Рэспубліканскім клінічным медыцынскім цэнтры Кіраўніцтва спраў прэзідэнта запрацавала толькі ў гэтым годзе, а ўжо прааперыравана каля сотні пацыентаў. У клініцы падкрэсліваюць: нягледзячы на тое, што да цэнтра прымацаваны чыноўнікі высокага рангу і заслужаныя людзі краіны, на кардыялагічныя аперацыі ў «лечкамісію» трапляюць жыхары Мінскай вобласці і Мінска з адпаведнымі накіраваннямі з бальніц. Такіх пацыентаў у аддзяленні больш за 90%.

У аддзяленні кардыяхірургіі працуюць 50 чалавек – кардыяхірургі, кардыёлагі, аперацыйныя і перавязачныя медсёстры, рэаніматолагі. З'яўленне такога аддзялення – гэта сведчанне таго, што школа беларускай кардыяхірургіі пашыраецца, у прафесію прыходзяць маладыя спецыялісты, і, значыць, ёсць магчымасць дапамагчы большай колькасці беларусаў, якія маюць патрэбу ў такіх аперацыях.

Ёсць і яшчэ адзін станоўчы момант у гэтай гісторыі.

Безумоўна, сотні пацыентаў, якіх аперыраваў Аляксандр Шкет, з задавальненнем прачытаюць гэтую навіну і парадуюцца за доктара. Справа ў тым, што 10 гадоў таму вядомаму кардыяхірургу пагражаў турэмны тэрмін. Гэта была рэзанансная справа, якая разглядалася ў судзе Маскоўскага раёна Мінска. Тады дзясяткі пацыентаў дзяжурылі каля будынка суда, не прапускалі ніводнага пасяджэння і пісалі лісты ў розныя інстанцыі ў падтрымку кардыяхірурга. «*Такіх спецыялістаў – адзінкі. Гэта залаты фонд беларускай медыцыны. Абвінавачванні ў адносінах да Шкета надуманыя*», – сцвярджалі пацыенты. Аляксандра Шкета абвінавачвалі ва злоўжыванні службовым становішчам, атрыманні хабару і іншых супрацьпраўных дзеяннях,



пракуратура патрабавала пакараць кардыяхірурга 7 гадамі калоніі. Аднак суд прызнаў Аляксандра Шкета вінаватым толькі па некаторых эпізодах і абмежаваўся ўмоўным прысудам. Магчыма, суд таксама ўлічыў і той факт, што на лаве падсудных апынуўся спецыяліст высокага ўзроўню: некаторыя аперацыі на сэрцы ў Беларусі на той момант выконвалі толькі Аляксандр Шкет і **Юрый Астроўскі.** Аляксандр Шкет, дарэчы, працягваў аперыраваць і падчас судовага працэсу, нярэдка на судовыя пасяджэнні ён ехаў адразу з аперацыйнай.

Трэба адзначыць, што і пасля судовага працэсу Аляксандр Шкет працягваў працаваць у РНПЦ "Кардыялогія" загадчыкам аднаго з кардыяхірургічных аддзяленняў. Быў момант, калі доктара зваблівалі калегі з Расіі, але ён вырашыў застацца на радзіме. Аляксандр Шкет выканаў больш за 3 тысячы аперацый на адкрытым сэрцы.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

ПАМЯЦЬ

# Кветкі для Быкава

*19 чэрвеня, у дзень нараджэння народнага пісьменніка, у 12.00 адбудзецца штогадовае ўшанаванне памяці Васіля Уладзіміравіча Быкава ля яго магілы на Усходніх (Маскоўскіх) могілках у Мінску.*

ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» запрашае далучыцца ўсіх неабыякавых.



ЗАКУЛИСЬЕ

# Сергей Мартынов сделал фото на память с Андрисом Лиепой

*Экс-министр иностранных дел Беларуси с женой побывал в Большом театре на премьере балета «Петрушка» Игоря Стравинского в постановке народного артиста России Андриса Лиепы.*

На белорусской сцене балет «Петрушка» поставлен впервые. Зрители приняли премьеру с восторгом.

Сергей Мартынов с супругой Маргаритой часто появляется на различных премьерах и вернисажах. И если раньше это была часть дипломатической работы, то сейчас подобные мероприятия – прежде всего для души.

Напомним, что экс-министр иностранных дел уже около шести лет является специальным представителем ОАО НК «РуссНефть» в Республике Беларусь.

«*Назначение Сергея Мартынова подчеркивает стратегический интерес НК «РуссНефть» к развитию внешнеэкономических связей, расширению географии деятельности, усилению позиции компании на международных нефтяных рынках*», – говорилось в пресс-релизе «РуссНефти» о новой должности бывшего высокопоставленного чиновника.

Кстати, на премьере в Большом театре засветился не только Мартынов, но и некоторые другие в прошлом высокопоставленные чиновники. Например, бывший вице-премьер **Владимир Дражин,** который нынче руководит Белорусской ассоциацией гольфа. Дражин тоже не удержался и сделал за кулисами снимок с Андрисом Лиепой. Кстати, известный танцовщик и режиссер с удовольствием позировал белорусским фотографам…

**Алина ВЕТРОВА.**



Сергей и Маргарита Мартыновы с Андрисом Лиепой.

Семен БУКЧИН

# РЕАНИМАЦИЯ ЛЖИ

## Эхо давней истории



### I

История и в самом деле давняя. Началась она, если быть точным, в 1986 году, то есть 32 года назад. И поначалу мне подумалось: а стоит ли спустя столько времени возвращаться? Не слишком ли много чести для совершенно ничтожного, если иметь в виду известность в литературно-театральном мире, автора недавно появившейся лживой публикации? А потом возобладала мысль, что есть в этой истории вполне современно звучащие уроки. И потому стоит…

В общем, началось так. Позвонила мне известный театральный критик Майя Горецкая и сообщила, что в журнале «Неман» за этот год (№№ 2,3) опубликовано документальное повествование о режиссере минского Музыкального театра Михаиле Ковальчике, а в нем имеется раздел «Скандальная история одного спектакля», где говорится о постановке в Бобруйском театре по пьесе на историческую тему, когда там главным режиссером был М.Ковальчик (он же и постановщик спектакля). Об этой постановке я и писал более тридцати лет назад.

Я журнал «Неман» давно не беру в руки. Хотя более полувека назад начинал в нем как литературный критик, много печатался там в те времена, когда главными редакторами журнала были Андрей Макаенок, Анатоль Кудравец, Геннадий Бубнов. Уже давно это не мой журнал. Но тут пришлось взять в Купаловской библиотеке два номера, в которых напечатано сочинение Владимира Ландера о творческом пути М.Ковальчика. Знакомство с этим текстом дало понять, почему так была возмущена М.Горецкая его низким культурным уровнем. Это апологетически-подобострастный, отличающийся развязно-пошловатой стилевой бойкостью гимн во славу Ковальчика, начиная с названия «Восхождение на театральный Эверест», пересыпанный такими перлами: «Михаил Станиславович с ходу стал ставить перед труппой космические задачи». Заглянув в интернет, я понял, что В.Ландер является преданнейшим поклонником М.Ковальчика. В его статье, озаглавленной «Пять открытий режиссера Ковальчука» (именно так там указана фамилия предмета истового поклонения В.Ландера), с пафосом утверждается: «Товстоногов удивлялся, Макаенок угощал, Адамович плакал, Быков платил, Распутин затащил в тайгу». И это все о нем, о Ковальчике! В общем, театрально-литературный мир лежал у ног Михаила Станиславовича. А он себе гордо шествовал на театральный Эверест, на который в конце концов и взобрался, как считает его обожатель, в Музыкальном театре.

Но, как говорится, на вкус и цвет… Ну поклоняется В.Ландер М.Ковальчику, пребывает в экстатическом восторге от его режиссерского таланта, самозабвенно возводит его на «театральный Эверест». Его право и вкус. Я тут, наверное, полноценным судьей быть не могу. Потому что видел в уже упоминавшемся 1986 году всего один спектакль, поставленный М.Ковальчиком в Бобруйском театре. Хотя и по этому спектаклю можно было судить об эстетическом уровне М.Ковальчика. А увидеть эту постановку хотелось еще и потому, что до того Министерство культуры БССР прислало мне на рецензию пьесу неизвестного драматурга Виктора Бобровича «Правила чести», претендовавшую на умопомрачительную трактовку реальных фигур и событий, связанных с декабристами. Почему мне прислали? А потому что я с начала 1970-х годов на архивно-библиографическом уровне занимался связями декабристов с Беларусью, плодом чего стали не только мои научные публикации, но и три художественно-документальные повести «Зимовка гвардии», «Бобруйский план» и «Эхо под Белостоком», опубликованные, кстати, в «Немане» и составившие книгу «К мечам рванулись наши руки», вышедшую сначала в издательстве «Юнацтва» в 1978-м, а затем вторым, дополненным изданием в «Мастацкай літаратуры» в 1985 году.

Я много занимался так называемым внутренним рецензированием, то есть писал рецензии на рукописи по просьбе разных издательств. Но с таким, простите, бредом, с такой откровенной фальсификацией истории и не просто антихудожественностью, а вызывающей пошлостью и ввиду очевидного отсутствия эстетического слуха абсолютно не осознаваемой автором грубой пародийностью, какими несло от сочинения В.Бобровича, столкнулся впервые. Михаил Пущин, родной брат Ивана Пущина, активного члена Северного общества декабристов и друга Пушкина с лицейских времен, превращен в пламенного революционера, готовящего заговор против Александра I в Бобруйской крепости. Но Михаил Пущин не служил в Бобруйской крепости в 1823 г., когда там готовили арест императора и начало восстания Сергей Муравьев-Апостол и Михаил Бестужев-Рюмин, двое из пяти повешенных после событий 14 декабря на Сенатской площади в Петербурге. Михаил Пущин не был членом тайного общества и узнал на квартире Рылеева о готовящемся 14 декабря выступлении только за два дня до восстания. Обещал привести на площадь свой батальон и струсил, не привел. В отличие от брата Ивана, сосланного на долгие годы в Сибирь, он был наказан только «за недонесение», разжалован из офицеров гвардии в рядовые и сослан на Кавказ. Там выслужил чин поручика, вышел в отставку и поселился в имении Паричи под Бобруйском. Спустя почти двадцать лет о нем вспомнил Александр II, дал ему генеральский чин и сделал комендантом Бобруйской крепости. Крепость к этому времени свое военное значение потеряла и была тюрьмой для политических преступников. В ней содержались и некоторые декабристы, и участники восстаний 1830-го и 1863–1864 годов. Условия там были жуткие. Герцен писал: «Пусть Сибирь, пусть все что угодно, но только не эта страшная тюрьма на Березине». А главным тюремщиком там был генерал Михаил Пущин, произведенный В.Бобровичем в пламенные революционеры. Но и в генеральском звании и комендантском чине он по-прежнему проявляет свои свободолюбивые симпатии, чуть ли не на его коленях растет будущий убийца Александра II народоволец Игнатий Гриневицкий.

А какие демонстрирующие вполне большевистское понимание истории разговоры ведет генерал и комендант с отцом Гриневицкого! Вот он спрашивает: «Герцен – дворянин и разночинец?» На что мелкопоместный дворянин Бобруйского уезда дает ответ вполне по учебнику истории КПСС: «Связующая нить между дворянскими и разночинными революционерами». Но у генерала и коменданта есть еще правильные «наводящие» вопросы: «А так называемые народники пошли в народ?» И здесь Гриневицкий не сплоховал: «Валом валят. И откуда только силы? Народников отдают под суд, гноят в тюрьмах, вгоняют чахотку, вешают и расстреливают, а они все идут и идут».

В итоге комендант Бобруйской крепости, всей своей карьерой обязанный царю, дает следующее революционное благословение сыну Гриневицкого: «Это хорошо, что самодержавные правители применили против нас силу и жестокость. Это закалит сердца будущих декабристов, к коим, как я полагаю, будет принадлежать и ваш сын Игнатка». В общем, не царский генерал, а очень подкованный секретарь обкома КПСС по идеологии.

Сочинение Бобровича переполнено подобными «художественными» откровениями и примитивными фальсификациями относительно реальных исторических фигур. Перечисление их заняло бы чересчур много места. И все это во имя одного: привязать эти фигуры к местному, бобруйскому колориту. Потому и свою рецензию в «Знамени юности» (опубликована 21 марта 1986 г.) на спектакль по этой пьесе, показанный во время гастролей Бобруйского театра в Минске, я назвал «История и местная привязка».

### II

Что тут началось! Точнее, началось, как только текст рецензии появился в редакции. В редакцию явился с угрозами и требованием не публиковать отзыв сам автор пьесы В.Бобрович. Звонили в редакцию с тем же требованием из ЦК КПБ. Но редактор «Знамени юности» Леонид Екель и сотрудник газеты, через отдел которого шла рецензия, Павел Якубович проявили твердость, и рецензия, в которой утверждалось, что «невежество – вот на что сделан главный расчет Бобровича», была напечатана.

Но у Бобровича, всего лишь директора фотостудии при Союзе журналистов БССР, оказались мощные связи в высших партийных кругах. Из ЦК КПБ последовала команда в редакцию газеты «Советская Белоруссия» немедленно опубликовать хвалебный отзыв на пьесу и спектакль, соответственно, опровергающий мою рецензию, члена-корреспондента АН БССР В.И.Нефеда. Но тут уперся первый заместитель главного редактора «СБ» Иосиф Середич. Моя рецензия показалась ему убедительной, ну и он был знаком с моей книгой «К мечам рванулись наши руки», где, с опорой на документы, была рассказана правда о Михаиле Пущине. Все-таки уже начинали веять перестроечные если не ветры, то первые дуновения.

Но тупой партийный диктат еще был силен, и упрямство тех, кто ему не подчинялся, могло стоить карьеры. В архиве И.П.Середича сохранилась его записка в комиссию партийного контроля при ЦК КПБ, более чем ярко запечатлевшая нравы, царившие тогда в белорусской партийной верхушке. Л.Екель и И.Середич были вызваны в ЦК КПБ на ковер к самому заведующему отделом пропаганды и агитации С.Е.Павлову.

*«В назначенное время открываем дверь кабинета Савелия Ефимовича. Я иду первым, Екель – за мной. Видим: Павлов кипит. И эта догадка тут же нашла подтверждение. Не ответив на приветствие, не предложив сесть, он, выскочив из-за стола, стал кричать:*

*– Что, онанизмом будете заниматься?*

*– Каким онанизмом? – спокойно переспросил я.*

*И в ответ услышал более крепкое выражение. Чувствовалось, что разговор не получится. Когда мы все же сели, Савелий Ефимович в резком тоне обратился к Екелю:*

*– Чья была позиция публиковать статью Букчина?*

*– Позиция редактора, – ответил Леонид Семенович.*

*– Ты х.., а не редактор, – выругался тов. Павлов.*

*– Савелий Ефимович, как вы можете так меня обзывать, я не х.., я – редактор, официальное лицо, – защищался Екель.*

*И тогда только что сказанные бранные слова в его адрес были повторены еще раз… Савелий Ефимович закричал:*

*– Вон из кабинета!»*

Таков был уровень тех, кто правил в ту пору страной. Рушилась экономика, нарастали социальные проблемы, а они бешено сопротивлялись даже далекой по времени исторической правде. Больше нечем было заняться в ЦК КПБ, как защищать убогий в художественном отношении, построенный на сплошных фальсификациях опус. Ну, наверное, непрост был этот Бобрович, думает читатель, видать, были у него свои способы воздействия, раз на его защиту встали в партийных верхах. Были, в том числе шантажные. Уровень их проникновения можно представить хотя бы по тому факту, что в Институт истории СССР Академии наук СССР в Москве, куда редакция «Советской Белоруссии» выслала на рецензию текст пьесы Бобровича, мою рецензию в «Знамени юности» и мою же книгу о связях декабристов с Беларусью, явился сам секретарь ЦК КПБ по идеологии А.Т.Кузьмин. Явился в сопровождении Бобровича. Он не кричал, не требовал. Всего лишь попросил «объективно разобраться». Но можно себе представить положение тогдашнего директора института доктора исторических наук, а ныне член-корреспондента РАН А.Н.Сахарова. Не каждый день приходят в его кабинет такие гости.

### III

И все-таки в союзном историческом институте не сдались. Вскоре в Минск пришли две официальные рецензии, подписанные известными декабристоведами А.В.Семеновой и С.В.Мироненко. Они были целиком опубликованы в «Знамени юности» 13 января 1987 г. и содержат в том числе и оценки писем, которые рассылал Бобрович в разные инстанции.

Вот выдержка из отзыва А.В.Семеновой: *«Пьеса «Правила чести» лишена историзма, изобилует фактическими ошибками… Поведение М.И.Пущина 14 декабря 1825 г. изображено совершенно неверно… Такие действующие лица, как Гриневицкий, Дорохов, Суворов, изображенные членами тайного общества, на самом деле не были декабристами и не участвовали в тайном обществе… Специалисту нетрудно увидеть, что допускается прямая фальсификация… Обвиняя С.В.Букчина в предвзятости оценок, автор пьесы сам допускает серьезные передержки, искажения работ Букчина, которые хорошо известны специалистам-историкам. Однако ни одно серьезное обвинение рецензента не опровергнуто автором пьесы. Статьи и письма В.И.Нефёда по поводу конфликта между драматургом и рецензентом отличаются крайним дилетантизмом и демагогичностью… В.Бобрович тасует, переставляет события, факты, имена и судьбы реально существовавших людей, жонглирует ими в угоду своему замыслу, весьма далекому от реального исторического прошлого. Язык пьесы беден, часто вульгарен, далек от языка XIX века… Нельзя не согласиться с мнением С.Букчина о невежестве – основе подобных произведений».*

А вот что писал С.В.Мироненко, ставший впоследствии главным архивистом России, директором Государственного архива Российской Федерации: *«Стремясь любой ценой превратить своего героя, лишь за два дня до восстания узнавшего о существовании тайного общества, в крупного деятеля движения декабристов, В.Бобрович без колебаний изменяет события, известные по школьному учебнику, создает никогда не существовавшее тайное общество в Бобруйске, приписывает М.Пущину конспиративные связи с Муравьевым-Апостолом… По существу, полностью искажена истинная ситуация с поведением М.Пущина на следствии, М.Пущин раскаивался в том, что не донес о подготовке к восстанию, и просил о помиловании».*

Бобрович между тем не дремал. Еще задолго до появления этих отзывов в «Знамени юности», в период подготовки спектакля на страницах газеты «Советская культура» (орган ЦК КПСС) появился анонс белорусского собкора газеты Т.Абакумовской: «Декабрист М.И.Пущин родился в здешних местах (*имеется в виду под Бобруйском.* – **С.Б.**), командовал конным батальоном и во время восстания повел его в Петербург, чтобы принять участие в восстании на Сенатской площади».

Вот так и не меньше. Что М.Пущин на самом деле родился в Петербурге – это мелочь по сравнению с полным переворотом в российской истории, объявленным «Советской культурой» со ссылкой на сочинение Бобровича. Никто этого не знал, а М.Пущин, оказывается, вел свой батальон из Бобруйска в Петербург на Сенатскую площадь. Это уже был полный перебор с исторической фальшивкой. Скандал разрастался. И в дело вмешалась «Правда». Театральный обозреватель газеты Нина Агишева отметила в своем обзоре (21 января 1987 г.), что пьеса, поставленная в Бобруйске, изобилует «фактами фальсификации русской истории… что русские офицеры эпохи декабризма представлены там примитивными пошляками, говорящими скабрезности и банальности»…

После этого Министерство культуры БССР исключило спектакль «Правила чести» из репертуара театра. Заткнулись и покровители Бобровича из ЦК КПБ.

### IV

И вот спустя более тридцати лет старая ложь опять всплывает. На этот раз факты подтасовывает автор журнала «Неман» Владимир Ландер. Скорее всего, не без помощи героя его восторженно-жизнеописательного опуса Михаила Ковальчика. В этой лживой куче все те же спекуляции, которыми оперировал Бобрович, – ссылки на доброжелательные отзывы о его пьесе людей с учеными степенями, не имевших ни малейшего отношения к истории декабристов, отзывы, выбитые более чем предприимчивым автором, который, по словам В.Ландера, перед бобруйской труппой «приоткрыл свой творческий портфель». О том, что этот портфель был набит грубейшими фальсификациями, ни слова. Даже не упомянуты процитированные выше отзывы специалистов из Института истории СССР союзной Академии, ученых, являвшихся учениками крупнейшего декабристоведа академика М.В.Нечкиной. Зато В.Ландер, старый человек, судя по журнальной справке «об авторах», опустился – при благословении редакции «Немана» – до откровенно хамских выпадов в мой адрес. Кстати, в той же справке опубликованы сведения, позволяющие судить о театроведческой квалификации суперпоклонника режиссера М.Ковальчика. Как главнейшие творческие заслуги В.Ландера названы документальный фильм «Індустрыя крочыць на сяло» и «несколько брошюр о возрождении белорусского села».

С кем тут вообще разговаривать? Тем не менее хочу подчеркнуть: я взялся за эту статью не для спасения памяти о декабристах от покушений примитивных фальсификаторов. Тут нет предмета для серьезной полемики. Упомяну впрочем, что нынешняя российская историография уже без былого пафоса подходит к деятелям декабристских обществ. Речь не идет о некоем разоблачительстве, а о более трезвом и многостороннем взгляде. Пишут среди прочего и о раздутости герценовского мифа о «богатырях, кованных из чистой стали». Авторы же из имперско-патриотического лагеря вообще считают декабристов врагами России, чье выступление против царя было подготовлено коварным Западом. Но это особая тема.

Мне же в этой статье важно показать, как загнивала советская партийная верхушка в последний период своего существования. Никакая правда, в том числе историческая, ей не была нужна. Прежде всего делались свои дела. И, как показывает публикация В.Ландера в «Немане», правда не нужна и сегодня. Тяга к извращению истории сохраняется. Невежество, соединенное с беспамятством, продолжает торжествовать.

Происходит резкое падение культуры, свидетельством чего является и опубликованная в «Немане» «повесть» В.Ландера. И если автор брошюр о возрождении белорусского села исполнен невероятного пиетета перед режиссером М.Ковальчиком, во имя которого можно лгать, то чем руководствовались сотрудники журнала, опубликовавшие этот льстивый бред? Каков их эстетический уровень, если они пленились красотами ландеровского стиля вроде этой: «Приятные отзывы (*о пьесе Бобровича.* –**С.Б.**) множились, как бабочки после брачных игр»? Ну и, конечно же, в журнале не помнят, что в 1970-е годы «Неман» в трех номерах опубликовал мои документальные повести о связях декабристов с Беларусью, полностью опровергающие и драматургические фальсификации Бобровича, и подтасовки реаниматора старой лжи В.Ландера, сегодня упоенно толкающего на «театральный Эверест» все того же М.Ковальчика. В редакции «Немана» не знают собственной истории. Или не хотят знать. Но из этого не следует, что можно беспардонно лгать на всю катушку и считать, что память отшибло у всех.

СМАЧНА ЕСЦІ!

## Святлана Кашыцкая распавядзе, як правільна абедаць

*Сёння яшчэ можна паспець падаць заяўку на бясплатны ўдзел у праекце «Здаровыя абеды з Exponenta» і атрымаць майстар-клас ад дыетолага па збалансаваным харчаванні.*

Кансультаваць мінчан будзе эксперт па правільным харчаванні **Святлана Кашыцкая.** Яна дапаможа падабраць аптымальны рацыён і прааналізуе абед кожнага ўдзельніка. Перш за ўсё яе будзе цікавіць, наколькі стравы збалансаваны па ўтрыманні бялкоў, тлушчаў і вугляводаў. Яна ж зоймецца аналізам «абедзенных праверак».

*«Праблема няправільнага рацыёну найбольш актуальна для жыхароў гарадоў*, – адзначыла PR-менеджар Exponenta Таццяна Моластава. – *Часцей за ўсё гаворка ідзе пра злоўжыванні тлустай ежай, перавагу простых вугляводаў і ў той жа час дэфіцыт бялкоў. Папоўніць яго можна нятлустым мясам, птушкай, рыбай, малочнымі і сыраватачнымі прадуктамі. Пры гэтым у абед людзі звычайна недаядаюць, кампенсуючы гэта багатай вячэрай, што і прыводзіць да паўнаты. Мы хочам паказаць, як можна харчавацца правільна і пазбегнуць негатыўных наступстваў».*

Ініцыятыва заклікана дапамагчы не толькі ўдзельнікам праекта. Сабраныя дадзеныя дазволяць ацаніць якасць харчавання ў мінскіх кавярнях і рэстаранах. На іх аснове будуць падрыхтаваны рэкамендацыі, як і дзе абедаць у сталіцы з карысцю для здароўя.



Як патрапіць у праект? Да абеду 19 чэрвеня трэба прайсці рэгістрацыю ў сацыяльных сетках, паведаміўшы свае ініцыялы, узрост, кантакты і месца працы. Сярод усіх жадаючых выберуць 20 чалавек.

**Вера ВІР.**

КІНАСЕАНС

## З кіназалы – у кнігу рэкордаў!

*21 чэрвеня ў кінатэатры «Масква» адбудзецца прэм'ера поўнаметражнага анімэ культавага японскага рэжысёра Хаяо Міядзакі «Рыбка Паньё» ў беларускай агучцы.*

У гонар гэтай падзеі ў Беларусі рыхтуецца спаборніцтва па самай масавай зборцы фігурак арыгамі, якое можа быць занесена ў кнігу рэкордаў.

Паўдзельнічаць у стварэнні рэкорда змогуць усе гледачы, якія прыйдуць на прэм'еру фільма. Перад пачаткам сеанса для іх адбудзецца экспрэс-майстар-клас, а затым будзе тры мінуты на тое, каб скласці як мага больш папяровых рыбак. У выпадку ўстаноўкі рэкорда ён будзе афіцыйна зарэгістраваны ў Кнізе рэкордаў краін Балтыі і СНД «Дзіва».

Пераклад і агучку фільма «Рыбка Паньё» на беларускую мову выканала кампанія «Кінаконг».

*«Паказам фільма «Рыбка Паньё» праект «Беларускія ўік-энды» адзначае своеасаблівы юбілей: гэта ўжо дзясяты фільм, які гледачы змаглі ўбачыць і пачуць па-беларуску ў рамках нашага супрацоўніцтва з кампаніяй velcom*, – адзначыў кіраўнік праекта «Беларускія ўік-энды» Андрэй Кім.

Паказы карціны пройдуць з 21 па 24 чэрвеня ў кінатэатры «Масква», з 26 па 27 чэрвеня – у кінатэатры «Піянер».

**Аліна ВЕТРАВА.**

НУ І НУ!

## Прадаецца прыбіральня

*На афіцыйным сайце РУП «Белюрзабеспячэнне» на аўкцыён выстаўлены незвычайны аб'ект нерухомасці.*

Лот выстаўляўся за 200 рублёў, але жадаючых набыць прыбіральню не знайшлося. Тым больш, мяркуючы па фотаздымку, аб'ект ужо быў "ва ўжыванні".



ГОЛ

# Такі футбол нам патрэбны!

## Набірае абароты футбольны чэмпіянат свету, які праходзіць у Расіі.





Балельшчыкі ў рэшце рэшт дачакаліся свята, якое праходзіць раз на чатыры гады. Што зараз творыцца на трыбунах расійскіх стадыёнаў, дзе праходзяць гульні першынства, словамі не перадаць. Дзяўчаты з розных краін свету, якія прыехалі падтрымаць свае любімыя каманды, могуць лёгка арганізаваць конкурс прыгажосці.

А якія эмоцыі! Чаго варты хаця б матч паміж зборнай Германіі і камандай Мексікі, які, да слова, завяршыўся сенсацыйна – дзеючыя чэмпіёны свету прайгралі мексіканцам з лікам 0:1. Антураж на трыбунах падчас гульні проста неверагодны! Часам складваецца ўражанне, што зборная Мексікі гуляе не ў Маскве, а ў Мехіка, і пасля фінальнага свістка тысячы зялёных самбрэра яшчэ доўга плылі па расійскай сталіцы пад бясконцыя покліч "Віва ля Мексіка!".

А хто-небудзь верыў, што ісландцам удасца згуляць унічыю (1:1) з "зорнымі" аргенцінцамі? Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што прагматычны ісландскі футбол і відовішча – гэта абсалютна супрацьлеглыя паняцці, але ж, як казаў у свой час вядомы трэнер Валерый Лабаноўскі: "Самае прыгожае ў футболе – гэта лік на табло".

Цікава, што Ліянэль Месі не забіў пенальці ісландскаму варатару Ханесу Тоўру Хальдаурсану, які стаў пасля матча ледзь не нацыянальным героем. Да слова, гэты варатар ужо запомніўся сваёй бліскучай гульнёй на Еўра-2016, дзе ісландцы не менш сенсацыйна выйшлі ў чвэрцьфінал, перамогшы ў 1/8 фіналу англічан. І, відаць, мала хто ведае, што для Ханеса футбол – не адзіная прафесія і, магчыма, нават не асноўны сродак заробку, бо свой першы прафесійны футбольны кантракт ён падпісаў толькі ў 2014 годзе. А доўгі час Хальдаурсан зарабляў на хлеб тым, што здымаў рэкламныя ролікі і музычныя кліпы для такіх буйных кампаній, як IKEA, Coca-Cola, спартыўнага тэлеканала 2Sport2. Штодзень да 17.00 хлопец займаўся рэжысёрскай працай, а затым ішоў гуляць у футбол. Так што беларускім футбалістам-"прафесіяналам" ёсць чаму павучыцца ў ісландскіх аматараў.

Дарэчы, на чэмпіянаце ўжо скандальна "засвяціўся" і старшыня праўлення брэсцкага "Дынама" Дыега Марадона, які запаліў цыгару падчас матча Аргенціна–Ісландыя, хаця на стадыёне гэта забаронена рабіць. У сацыяльных сетках з гэтай нагоды ўжо пажартавалі: "Марадона не прынасіў з сабой цыгару. Яе пакла ў рот "рука Бога".

Пазней легендарны футбаліст папрасіў прабачэння і заявіў, што не ведаў пра забарону курэння на стадыёнах, а ў дадатак яшчэ і даў перцу галоўнаму трэнеру аргенцінскай зборнай Хорхе Сампаолі: "Калі каманда будзе гуляць так, як з ісландцамі, трэнер не зможа вярнуцца ў Аргенціну. Каманда не падрыхтавана, гэта ганьба! Я не вінавачу футбалістаў. Уся віна на галоўным трэнеры".

Будзем спадзявацца, што пасля чэмпіянату Марадона ўсё-такі завітае ў Брэст з чамаданам футбольных ведаў і нарэшце зоймецца справамі мясцовага "Дынама", якому да ўзроўню тых, хто гуляе на сусветным першынстве, пакуль што гэтак жа далёка, як ад Масквы да Мексікі.

Тым часам першынство ідзе сваім ходам, і будзем спадзявацца, што нас чакае яшчэ шмат незабыўных момантаў. Працягваем балець за свае любімыя каманды…

**Алесь СІВЫ.**

### Вынікі матчаў, якія адбыліся

**14 чэрвеня**
Расія – Саудаўская Аравія – 5:0
**15 чэрвеня**
Егіпет – Уругвай – 0:1
Марока – Іран – 0:1
Партугалія – Іспанія – 3:3
**16 чэрвеня**
Францыя – Аўстралія – 2:1
Аргенціна – Ісландыя – 1:1
Перу – Данія – 0:1
Харватыя – Нігерыя – 2:0
**17 чэрвеня**
Коста-Рыка – Сербія – 0:1
Германія – Мексіка – 0:1
Бразілія – Швейцарыя – 1:1

ФУТБОЛ

# БАТЭ зноў рвануў наперад

## Адбыліся матчы 12-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.

Вось іх вынікі: "Тарпеда" (Мінск) – "Слуцк" – 0:1, "Гарадзея" – "Мінск" – 1:2, "Шахцёр" (Салігорск) – "Прамень" (Мінск) – 4:0, "Тарпеда-БелАЗ" (Жодзіна) – "Днепр" (Магілёў) – 1:0, "Нёман" (Гродна) – БАТЭ (Барысаў) – 2:3.



### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 12 | 10 | 1 | 1 | 21–6 | 31 |
| Дынама (Мн) | 11 | 7 | 3 | 1 | 15–5 | 24 |
| Шахцёр | 12 | 7 | 3 | 2 | 15–5 | 24 |
| Віцебск | 11 | 7 | 2 | 2 | 15–7 | 23 |
| Слуцк | 12 | 6 | 3 | 3 | 16–9 | 21 |
| Нёман | 12 | 6 | 3 | 3 | 13–10 | 21 |
| Тарпеда-БелАЗ | 12 | 5 | 3 | 4 | 10–8 | 18 |
| Іслач | 11 | 3 | 6 | 2 | 8–9 | 15 |
| Дынама (Бр) | 11 | 2 | 7 | 2 | 14–15 | 13 |
| Мінск | 12 | 2 | 4 | 6 | 13–15 | 10 |
| Смалявічы | 11 | 2 | 4 | 5 | 8–11 | 10 |
| Днепр | 12 | 2 | 4 | 6 | 6–15 | 10 |
| Прамень | 12 | 2 | 3 | 7 | 8–19 | 9 |
| Тарпеда | 12 | 1 | 4 | 7 | 4–16 | 7 |
| Гомель | 11 | 1 | 4 | 6 | 4–12 | 7 |
| Гарадзея | 12 | 1 | 4 | 7 | 6–14 | 7 |

**P.S.** *У табліцы не ўлічаны матчы, якія адбыліся ўчора вечарам: "Дынама" (Мінск) – "Віцебск", "Гомель" – "Смалявічы", "Іслач" (Мінскі раён) – "Дынама" (Брэст).*



ЗАПРАШЭННЕ

# Верталёты, парашуты, дроны і стрыт-фуд

## *У Мінску на аэрадроме Баравая 28–29 ліпеня пройдзе бясплатны фестываль «# Пронебо».*

Наведвальнікаў чакаюць захапляльныя авіягонкі, спаборніцтвы парашутыстаў, вялікі канцэрт і вулічны фудкорт, а пры жаданні можна будзе палятаць на верталёце або паветраным шары. Як распавялі «Народнай Волі» ў Беларускай федэрацыі авіяцыйнага спорту, уваход для ўсіх жадаючых вольны.

Фестываль здзівіць маштабам: арганізатары прадставяць у адным месцы адразу некалькі відовішчных авіяцыйных відаў спорту. На зямлі і ў небе можна будзе разгледзець каля 30 лятальных апаратаў: паветраныя шары, аўтажыры, самалёты і верталёты з розных краін свету.

У гэтым годзе фестывалю будзе папярэднічаць чэмпіянат свету па верталётным спорце, які стартуе ў Мінску 23 ліпеня. Больш за 100 пілотаў з Беларусі, Расіі, Германіі, Польшчы, Кітая і іншых краін будуць змагацца ў слаламе, развозцы грузаў, навігацыі, дакладнасці, камандный эстафеце і іншых дысцыплінах. Эфектным фіналам стануць верталётныя гонкі. У авіяцыйную праграму таксама ўключаны фігуры вышэйшага пілатажу, у тым ліку элементы паветранага бою.




Для наведвальнікаў будзе дзейнічаць фудкорт ад Vulitsa Ezha. У адрозненне ад іншых фестываляў, уваход на яго будзе бясплатны. Дзясяткі кропак харчавання прапануюць наведвальнікам вулічную ежу розных краін свету.

*«На мерапрыемства можна будзе прыйсці ўсёй сям'ёй, у тым ліку і з хатнімі гадаванцамі, – адзначаюць у БФАС. – Акрамя таго, гэта магчымасць апошні раз убачыць аэрадром Баравая да яго поўнага закрыцця».*

**Аліна ВЕТРАВА.**

ВАКОЛ ЧМ-2018

### Вось дык абяцанне!

Галоўны трэнер зборнай Панамы Эрнан Дарыё Гомес паабяцаў, што вып'е дзве бутэлькі гарэлкі, калі яго каманда выйдзе з групы ў плэй-оф чэмпіянату.

Нагадаем, што ў групе з камандай Панамы гуляюць таксама Бельгія, Туніс і Англія.

### Не скачыце, фанаты...

Падчас матча паміж зборнымі Мексікі і Германіі ў паўночнаамерыканскай краіне быў зафіксаваны землятрус. Вучоныя прыйшлі да высновы, што яго верагодный прычынай маглі стаць скачкі футбольных фанатаў, якія адзначалі пераможны гол, забіты камандзе Германіі.

### Не прыйшлі

У другі дзень першынства матч Уругвай–Егіпет, які праходзіў у Екацярынбургу, непрыемна здзівіў вялікай колькасцю вольных месцаў на стадыёне. Гэтую гульню, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, наведалі 27.015 чалавек. Пры гэтым на матч было прададзена каля 32 тысяч квіткоў. Акрамя таго, некалькі балельшчыкаў, якія прыйшлі паглядзець матч на стадыён, сталі ахвярамі фантомных білетаў, якія прадаваліся на неісную́чыя месцы.

### 4700 кіламетраў – на роварах

Супрацоўнік мэрыі партугальскага муніцыпалітэта Аленкер Элдэр Бацішта прыехаў у Маскву на чэмпіянат свету па футболе на веласіпедзе. Канчатковым пунктам стаў пасёлак Кратава Маскоўскай вобласці, дзе размешчана база партугальскай зборнай.

Ад муніцыпалітэта Аленкер, які знаходзіцца ў 40 кіламетрах ад Лісабона, да Кратава – 4700 кіламетраў. Бацішта пачаў свой шлях з роднага пасёлка 6 мая. За гэты час ён праехаў Іспанію, Францыю, Германію, Польшчу, Літву, Латвію. Латвійска-расійскую мяжу партугалец перасек 13 чэрвеня.

### Не адпусціла жонка

Мексіканскія балельшчыкі наведваюць матчы сваёй нацыянальнай каманды на першынстве разам са сваім кардонным сябрам Хаўерам. Той вырашыў адправіць у Расію сваю кардонную копію, бо на турнір яму забараніла ехаць жонка. На блакітнай футболцы Хаўера напісана: "Мая жонка НЕ адпусціла мяне".

### Такое ўжо было

Зборная Германіі другі раз у гісторыі пачала чэмпіянат з паражэння. У 1982 годзе немцы ў першым туры саступілі камандзе Алжыра з лікам 1:2. Аднак, нягледзячы на тую няўдачу, у выніку зборная дайшла да фіналу. На апошніх сямі турнірах каманда Германіі нязменна стартавала з перамог, пры гэтым у апошні час забівалі сапернікам не менш за чатыры галы.

ШАШКІ

### У манастырскай цішы...

Спецыяльна для нашай рубрыкі прапанаваў свае варыянтныя кампазіцыі ў міжнародныя шашкі першы чэмпіён свету по рашэнні шашачных пазіцый і пераможца апошняга матча Расія–Украіна–Беларусь **Аляксандр Мікалаеў**. 26–27 мая гэтага года вядучы рубрыкі наведаў Ніла-Столбенскі манастыр Цвярской вобласці, дзе зараз жыве вядомы расійскі гросмайстар.



№1 **Белыя**: 16, 24, 29, 31, 33, 34, 40, 47 (8).
**Чорныя**: 6, 13, 22, 25, 32, 36, 38, 42, 45 (9).
30(45:23**А**), 11, 8(27**В**), 3(34), 16, 7(28), 16(33), 43(22), 16(39), 11 х. **А**(25:23), 11, 8(17), 3(34), 11, 7(28), 11(28-32), 16 х. **В**(17), 3(27), 15, 10(29), 15 х.

Уражвае, з якой лёгкасцю аўтар камбінацыйна спалучыў тры вельмі разнастайныя фіналы.

№2 **Белыя**: 22, 27, 28, 30, 31, 32, 45, 49, 50 (9).
**Чорныя**: 7, 8, 14, 16, 25, 29, 33, 36, 39 (9).
21, 50-44, 43, 1(34**А**), 45, 50 х. **А**(22), 34(27**В**), 20(14), 24 х. **В**(44), 43/48, 50 х. Перапрацоўка дамачной праблемы аўтара у фармаце звычайнай праблемы.

### Прывітанне з Украіны

Аўтар наступных міжнародных кампазіцый **Іван Івацка** з украінскай Вінніцы.

№3 **Белыя**: 22, 27, 32, 37, 38, 41, 42, 43 (8).
**Чорныя**: 9, 12, 19, 24, 26, 29, 34, 39 (8).
33, 21, 3, 26, 19 х.
№4 **Белыя**: 12, 30, 31, 32, 34, 37, 42, 46 (8).
**Чорныя**: 9, 11, 19, 20, 22, 23, 26, 29, 35 (9).
28, 3, 37, 15, 6 х.
№5 **Белыя**: 16, 19, 21, 34, 35, 38, 39, 40, 43, 47 (10).
**Чорныя**: 3, 7, 8, 9, 10, 12, 20, 23, 28, 31 (10).
11, 32, 33, 2(13), 8, 42 х.
№6 **Белыя**: 10, 11, 21, 22, 27, 28, 31, 33, 40, 44, 45, 49 (12).
**Чорныя**: 5, 9, 12, 13, 19, 24, 29, 30, 36, 38, 41, 42 (12).
18, 22, 34, 43, 3, 1 х.

### Барысаўскія эскізы

Спрабуе свае сілы на 100-клетачнай дошцы і **Юрый Мурадаў** з Барысава. Знаёмім з яго новымі творамі (№№7 і 8 у апрацоўцы вядучага рубрыкі).

№7 **Белыя**: 29, 31, 34, 35, 40, 49 (6).
**Чорныя**: 19, 20, 26, 38, 42, 45 (6).
35-30, 23, 24, 43, 39, 47 х.
№8 **Белыя**: 19, 23, 30, 39, 43, 45, 49 (7).
**Чорныя**: 10, 16, 20, 25, 27, 34, 40, 42 (8).
14, 24, 30, 39, 21, 47 х.
№9 **Белыя**: 10, 14, 16, 33, 37, 44, 50 (7).
**Чорныя**: 5, 19, 21, 22, 23, 27, 34, 35 (8).
39, 29, 23, 19, 32, 40, 48 х.

### Візіт з Прыбалтыкі

Свае кампазіцыі ў рускія шашкі прапануюць госці з Прыбалтыкі: **Рымас Мацкявічус** з Літвы (яго практычныя мініяцюры №№10–12 прапануем рашыць самастойна) і **Генадзь Андрееў** з Латвіі (№№13–15).

№10 **Белыя**: b4, d2, d6, e1, h2 (5).



**Чорныя**: d8, f4, f6, f8, h4, h6 (6).
№11 **Белыя**: b2, c1, d2, f4, h4 (5).
**Чорныя**: b4, c7, e7, f6, h6 (5).
№12 **Белыя**: b4, c5, d4, e1, f2, h4 (6).
**Чорныя**: d6, e7, f4, f6, f8, h6 (6).
№13 **Белыя**: a7, b2, b6, c1, d4, d6, h2, h6 (8).
**Чорныя**: a3, d8, f2, f4, f6, g3, g5, h4 (8).
e5, bc7, g1(f2), e3, e3, f4, f4 х.
№14 **Белыя**: a1, c1, c3, d2, d4, h2 (6).
**Чорныя**: b6, f2, f4, f6 (4).
cb2(e1), c5, g7, c3, c3(e3) , g3 х.
№15 **Белыя**: b2, d2, f4, h6 (4).
**Чорныя**: a3, d4, f6, h8 (4).
dc3, g7, f4 х.

### Супаставім рашэнні

***"НВ" ад 8 мая 2018 года.***

№1 – f6, f8, d6, fe7, c7, e3, a3 х.
№2 – c7, b6, d4, g5, f4(a1), b2, f2 х.
№3 – b4, d4, f6, g7, bc3, d4, a7 х.
№4 – c3, a7, b8(de5), f8, h6(g3), f4(b2), hg5, g7 х.
№5 – d2, a5, c5, e5, f2, a7(c5), e5(g3, d4), f4(c3), c1 х.

Пераможцам у гэтым бліц-конкурсе **Віталь Варушыла**. Віншуем пераможцу!

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Эдуард Дамброўскі, Віталь Варушыла, Іван Наўроцкі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в. Рублёўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Уладзімір Панько** (Камянец). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае заўвагі на пазіцыі "НВ" ад 8 мая 2018 года дасылаў **Генадзь Андрееў** (Латвія).

№3 – Супадае з кампазіцыяй А.Каўрыжкіна з кнігі В.Ячэйкіна «Кампазіцыі украінскіх шашыстаў» (1974).
№6 – Пасля f6(g7:e5)... выйгрышу няма.
№6 – e7(h4)g5 або bc3 або fe5+...

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"*** або на электронны адрас рэдакцыі: ***shulga.checkers@gmail.com.***

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**


**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
**nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info**

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**






Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 18.06.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 010 экз. Заказ № 2074.